5"2003





СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА



# РЭВАЛЮЦЫЯ






Самыя пошлыя расповеды - як "гэта" адбывалася ў першы раз. Празьмерная, на мяжы фолу ўзбуджанасьць, спроба "пераплесьці" целы ў каханьні, макрэча з самых нечаканых месцаў... І ўсё раптам скančваецца тырканьнямі ў невядомасьць. У выніку - не рамантычнае "кахаліся", а драўлянае "ажыцьцявілі полавы акт". Пасьпяхова ці не - тэма асобнай гаворкі: комплексы - у наяўнасьці. Пошлыя - ня пошлыя, яны самыя шчырыя. Першы раз пакідае за чалавекам права быць няўдачнікам, небаракам, а таму нешчасьлівым і адпаведна арыгінальным (як там у клясыка - "кожная нешчасьлівая па-свойму"). Пасьля - другі, трэці і соты разы - праўда толькі самому сабе, і то не адразу. Тым больш сьмешна, калі нарэшце ўсьведамляеш, чаму слухаць "шчыроты" пра "подзьвігі" так нудна: далей за агульнапрынятыя порна-банальнасьці большасьць з нас не заходзіць.
Можа быць, такое няўцямнае intro і не давядзе да асноўнага, але ж... Сэкс-рэвалюцыя - гэта толькі спроба зразумець, што першы раз - ня старт "чарговых", а пачатак "адзіных" і "непаўторных". За імі хаваецца ня сэнс жыцьця ("нешта са мной ня тое - гамон!"), але толькі адзін зь яго штрыхоў. Сэкс як элемэнт кожнага дня. Сэксуальная рэвалюцыя як пэрманэнтны стан. Стан узбуджанасьці галаўнога мозгу...

## знойдзеш нас у гэтых месцах

- крама **"TOM TAILOR"** (Менск, пр. Скарыны, 37, т. 288-12-44)
- крама **"LEVI'S"** (Менск, пр. Скарыны, 48, т. 288-25-62 )
- крама **"ПОДЗЕМКА"** (Менск, пр. Скарыны, 43, т. 288-20-36)
- крама **"БУНКЕР"** (Менск, вул. Казлова, 14, т. 284-93-99)
- крама **"CAMELOT"** (Менск, пр. Скарыны, 44, т. 284-30-14)
- крамы **"МИСТЕРИЯ ЗВУКА"** (Менск, вул. Няміга, 12, т. 289-39-30; пр. Скарыны, 52А, т. 283-23-06)
- ГЦ **"ПАРКИНГ"** (Менск, вул. Куйбышава, 40, крама "FUJIfilm", т. 237-30-33)
- аўтобусы **"INTERCARS"** і офіс **"INTERCARS"** (Менск, вул. Гікалы, 3, т. 284-60-37, 284-60-85)
- крама **"ПЕРЕХОД"** (падземны пераход каля ГУМа, т. 227-41-14)
- крама **"КОМПЬЮТЕРНЫЙ МИР"** (вул. К.Чорнага, 31, т. 284-00-35)
- інтэрнэт-клюб **"iPOINT"** (вул. Румянцава, 15, т. 233-97-25)
- інтэрнэт-цэнтар **"Площ@дка"** (пр. Скарыны, 58-4, т. 239-38-74)
- **"ЦЕНТР МОЛОДЕЖНЫХ ПУТЕШЕСТВИЙ"** (вул. Варвашэні, 17-101, т. 239-17-49)
- офісы фірмы **"DAAS"** (вул. Калініна, 7, оф. 55; пр. Скарыны, 93, пад'езд 5, цокаль, оф. 7, т. 269-10-50, 269-11-01)
- ЗАТ **"ЭКСПО-ТРЭВЭЛ", ЦЭНТАР КУЛЬТУРНЫХ АБМЕНАЎ** (вул. Сурганава, 47, оф. 8, т. 232-50-28)

CD /СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА/ #5 (89) 2003 г.

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"
**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай Думкі"

**Галоўны рэдактар** Ірына Віданава

**Рэдактары**
Мікола Шакель /mikalaus@hotmail.com/
Сяргей Сахараў /2ss2@tut.by/

**Камэрцыйны дырэктар**
Аляксандар Казлоўскі
/alex-iskander@mail.ru/
/па пытаньнях рэклямы - 8 (029) 626-69-36/

**Стыль і карэктура**
Алесь Кастыка

**Вёрстка** achuma_group
**Дызайн вокладкі** vitaminv

**Адрас рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19
**Пэйджэр:** 206-75-75, абанэнт "DYMKA"
**Адрасы для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90
studumka@tut.by
www.studumka.com

Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь.
Пасьведчаньне N<sup>O</sup> 1296 ад 13.04.1999 г.

Меркаваньні аўтараў часопіса не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя зьвесткі строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за рознага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.



Друкарня ТДА "НоваПрынт".
Ліцэнзія ЛП N<sup>O</sup>№285, выдадзеная Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь 28.07.1998 г.
Фармат 60x84 1/8
Папера мелаваная 90 г/м²
Падпісана ў друк 23.05.2003 г.
Замова N<sup>O</sup> 490
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны

# ЗЬМЕСТ



СЭКС У ВЯЛІКІМ ГОРАДЗЕ
за 25 эўра

22–23



СЛУЧАЙ З ПАЦАНОМ II

34–36



## ХТО АБУЎ КРАСОЎКІ "ЛІДА"...

Туфлі скураныя спартовыя сіняй і блакітнай колеравай гамы вытворчасьці Лідзкай абутковай фабрыкі прадаюцца ў кожнай (NB!) абутковай краме краіны. У прыклад усім канкурэнтам, на кошце ў 9 (дзевяць) эўра спыніліся айчынныя вытворцы першай партыі актуальнай лініі красовак ольдскул.



Па сьведчаньнях старажылаў, красоўкі лідзкія ад пачатку выраблялiся як дакладная копія Adidas'аў: падэшва, заднік, прашыўка - усё адно да аднаго. Адзінае што палосы - як памятаем, у клясычных узору сярэдзіны 1980-х Adidas'ах іх тры, у беларускіх жа - толькі дзьве. Ну і кошт, самі разумееце.

Дзесяць-пятнаццаць год таму нашыя недальнабачныя браты і сёстры любы галімы спартовы абутак называлі "лідзкім", чым не давалі раскруціцца брэнду. *"Хто абуў красоўкі "Ліда", той пахож на інваліда"* - яўная інсынуацыя: зараз па танны і супэрскі па якасьці абутак шырспажыву ў Менск прыяжджаюць стакгольмскія і праскія рэпэры і клябэры. Больш за тое: па чутках, адзін небезызвядомы рэзыдэнт маскоўскага клюбу набыў каля 10 параў нашых красовак і адразу ў краме пачаў расфарбоўваць белыя палоскі "лідзкіх" чырвоным маркерам. "Самаробным "адзідасам" я "парву" ўсю Маскву", - прагучаў вэрдыкт.

Адно шкада: з продажу зьніклі чырвоныя "Ліды".

---

## ПРАПАНУЕМ ПРАЦУ

"Вы нам пісалі" - так магла называцца рубрыка ў CD, дзе б зьмяшчаліся лісты нашых чытачоў. І пакуль рэдакцыя рыхтуецца правярнуць такую афэру ў сваім выданьні, некаторыя ўзяліся абмяркоўваць усе заганы і перавагі нашага часопіса публічна на форуме тут.бай.

На фоне астатняй вэрбальнай дыярэі і тупасьці, на якія спрадвеку хварэюць інтэрнэт-агоры, на форуме "Торкнула "Студэнцкая Думка"" сустракаюцца кроплі розуму. Распавядаць няма пра што - залезьце і паглядзіце http://www.tut.by/Forum/23670/last.

Мы ж прапануем інтэрнэт-актывістам наступную камбінацыю. Той з вас, хто будзе гатовы выступіць у ролі мадэратара форуму, сёньня ж рэгіструецца на ім пад нікам aktyvist (cd-aktyvist@tut.by), чым пацьвярджае сваю згоду яго весьці, і займаецца гэтым цягам роўна трох тыдняў ад рэгістрацыі. Аб правілах форуму, патрабаваньнях да мадэратара і бонусах - у інструкцыях (на studumka@tut.by).

Гульня пачынаецца...




### Hey Mr. DJ! You are my hero!



Слава Бандарэнка, кантрыбутар CD/ды-джэй "Альфа Радио", узяў у Маскве радыйную прэмію імя Папова як лепшы на постсаўдзепаўскай тэрыторыі вядучы FM.

Падобна на тое, што Бандарэнка становіцца заканадаўцам моды на радыё-інтэлект. Тэкставыя ж досьціпы Вячкі пра ананізм чытайце далей.

### Балівуд штотыдня



Варта толькі ўключыць у суботу з раніцы Першы нацыянальны канал, і ў вашую кватэру ўварвуцца радасьць і гора, сьмех і сьлёзы, каханьне і падступства. І музыка, музыка, музыка.

Проста, даходліва, а таму зразумела. Страката, ярка і экзатычна, а таму прыцягальна.

Варта заўважыць, што індыйская кінаіндустрыя з зайздроснай упартасьцю прапагандуе ідэі дыска-геданізму, агучаныя яшчэ ў клясычным "Танцуй, танцуй!". А таму ўключайце з раніцы БТ, трэш-нягоднікі і адэпты клябінгу, і глядзіце відэадапаможнік па актуальным лайф-стайле.

### "Абсэнт"



Праект "Крамбамбуля" стаў сапраўдным народным прадуктам. І ўсё дзякуючы "Абсэнту". Тут хіба што парадавацца, але ніколі б не падумалі, што напой багоў можа выклікаць такія (!!!) прыступы ванітаў. Усе менскія FM нібы звар'яцелыя другі месяц запар круцяць песеньку менскіх кляшараў пра "палынны напой".

Во як: бывай, беларускі рок - "музыка пратэсту"! Вітайма беларускамоўную папсу!!!

### Ольдскул бутс



выраблены ў Ліда-сіці. Проста грэйт.




### Форум "Торкнула CD"

трэці месяц на tut.by








### Кавярня The Beatles



Адкрылася толькі ў мінулым месяцы, а таму яе наведнікі пакуль не прайшлі натуральны адбор па прынцыпе "фэн"/"ня-фэн" - збольшага тут усім падабаецца. Як мінімум атмасфэра і бітлз-гэджыты. Апошнія - асноўны цымус установы.

Тым ня менш, ужо не адзін каваман насьцярожліва канстатуе, што радасьць ад "далучанасьці да вялікага", на чым і пабудаваны бізнэс-плян установы па вул. Цімяразева, зьнікае гэтак жа хутка, як замоўленая філіжанка кавы. І кошт яе - крыху больш за 2 эўра - пацьвярджае адвечнае: любоў за грошы не прадаецца. Прынамсі, не за такія.

### Чаргговы трыб'ют



Лепей ня трэба...

### Рэклямная кампанія "Белсел"




Настальгічны шык без абанэнцкай платы

### Matrix у Менску ня зьявіцца




аж да восені, калі выйдзе трэцяя частка эпапеі. "Кінавідэапракат" бажыцца, што не пакіне айчынных хакераў у бядзе і разам з прэм'ерай трэцяй часткі Matrix абавязкова пакажа другую. Але тут узьнікае пытаньне: нахалеры нам здалася "Перазагрузка" праз паўгода, калі на захадзе і ўсходзе гістэрыя па новых старых прыгодах Нэа кіпіць ваўсю, а беларусы тым часам адпачываюць. Зрэшты, як заўсёды.

### "патрыёты"



Мода на савецкую атрыбутыку і сымболіку ў менскіх "ціпа-моднікаў" набывае масавы характар - дзякуй богу, "паркінгі" і "дынама" забясьпечваюць бесьперапынныя пастаўкі чырвоных кашулек і мастарак з абрэвіятурай СССР. Тыя ж, у каго бабак толькі і хапае што на "жданы", займаюцца гульнямі патрыётаў.

Па сьведчаньнях школьнікаў і студэнтаў сталіцы "нашай Родзіны", нейкая арганізацыя БРСМ настойліва прапануе кожнаму навучэнцу СШ, ПТВ і ВНУ ўступіць у шэрагі яе адэптаў. Нязгодным мякка абяцаюць зьмяніць сацыяльны статус: са студэнтаў - у беспрацоўныя. Слава героям, якія не баяцца выкінуць f*ck палітычнаму мэйнстрыму!

## ГРУПА "DOORS" ЯК АХВЯРА ТРЫБ'ЮТУ

Пра гэта было вядома даўно, яшчэ калі толькі выйшаў "Пэрсанальны "Дэпэш". Праца над праектам ідзе ваўсю, і інфармацыя пра "Doors" пакуль яўна несуцяшальная. Прадусары праекту - Старповіч-Халадзінскі-Макараў - яўна не без падказкі фундатараў вырашылі, што праект будзе міжнародным. Сярод удзельнікаў, па нашай інфармацыі, пакуль прэвалююць маскоўскія сябры - маладыя "рок-ваўкі" тыпу гугнявых "Ночных снайперов".




Для нас самае цікавае, хто ўдзельнічае ў праекце ад беларусаў. Заплюшчыце вочы і расслабцеся - прадусарам не прыйшло ў галаву нічога лепшага, як са сьпісу прэтэндэнтаў выбраць... "Палац" і "Белорусских песняров". Ведаючы асноўныя стылістычныя прыярытэты "фольк-мадэрновага" гурта, які праз выбрыкі свайго ды-джэя стаўся падобным да такога народнага хору з ужыванай "ямахай" на балянсе, і "олд-бой бэнду", асноўны рэпэртуар якога разьлічаны на дамачак бальзакаўскага веку, што пра Джымі ні ў маладосьці, ні зараз ня чулі, - можна толькі здагадвацца, як загучыць LA WOMAN.

---

## "УЗАЕМАРАЗУМЕНЬНЕ - БЯСЦЭННАЕ"

На думку экспэртаў, беларускі мабільны рынак ужо прайшоў стадыю разьвіцьця і станаўленьня. Прыток новых кліентаў стабілізаваўся, і зараз баявыя дзеяньні разгортваюцца на рэклямных плошчах.

"Белсел" яўна пераплюнуў сваіх канкурэнтаў апошняй сэрыяй "Доверие бесценно". Замест дурнаватых карцінак зь нетутэйшымі тварамі, якія чамусьці настойліва выдаюцца за нашыя, "Белсел" спыніўся на пазнавальных і сапраўды рэальных вобразах, што закліканыя прыцягнуць увагу кліентаў. Кліентаў разборлівых: на адным з плякатаў зьмешчаны фатаздымак Ленана і сям'і Стараў падчас размовы з настаўнікам Махарышы Махеш Ёгі, на другім - лепшы Джэймс Бонд Шон Конэры ў атачэньні ню-прыгажунек.

Больш за тое - кліентаў дарослых: калі адсачыць лёгіку рэклямак, чалавек, які прыйшоў падключацца да cdma'2000, як мінімум мусіць настальгаваць па адзначаных героях.




Адпаведна, кліент гэты мае ўзрост 40-45 гадоў, ён прадстаўнік беларускай сярэдняй клясы, а значыць у свой час стаў сьведкам вясны'68 і таму актыўна ўдзельнічаў у якой бітаўскай тусоўцы ці гіпоўскай сыстэме. Пасьля інстытут, праца, напачатку 1990-х - свой бізнэс, ну і гэтак далей па нарастаньні.

У нашым выпадку самы вялікі мінус у тым, што пакуль ніводзін з апэратараў мабільнай сувязі нават не падумаў стварыць што-небудзь "гэткае" для 18-25-гадовых.

# СЭКС РЭВАЛЮЦЫЯ

рэцэпт разбурэньня культуры

КАЛІ ТЫ ДАГЭТУЛЬ ДУМАУ, ШТО СЭКСУАЛЬНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ – ГЭТА БАРАЦЬБА ЗА "СВАБОДНЫ ТРАХ", ТЫ ЖОРСТКА ПАМЫЛЯУСЯ. ГІСТОРЫЯ СЭКС-БУНТАУ ХХ СТ. ДАВОДЗІЦЬ, ШТО ФІЗІЯЛЁГІЯ ТУТ – СПРАВА НЯ ПЕРШАЙ ВАЖНАСЬЦІ. У ВЫРАЗЕ "СЭКСУАЛЬНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ" ГАЛОУНАЕ СЛОВА ЯКРАЗ ДРУГОЕ. ГЭТА СЭРЫЯ ГРАНДЫЁЗНЫХ ЭКСПЭРЫМЭНТАУ ПА СТВАРЭНЬНІ НОВАЙ МАРАЛІ, А ЗААДНО І КУЛЬТУРЫ. НАПАЧАТКУ ЯНЫ НАГАДВАЛІ БІТВЫ ЗЬ ВЕТРАКАМІ, АЛЕ НАПРЫКАНЦЫ ЗАУСЁДЫ ЗЬБІРАЛАСЯ НЕАБХОДНАЯ КОЛЬКАСЬЦЬ АБЛОМКАУ, КАБ ПАД ІМІ НЕШТА ЩІ НЕКАГА ПАХАВАЦЬ. ХРАНАЛЁГІЮ УЗНАУЛЯЕ

**МАКС АГЕЕУ.**

## КРОК ПЕРШЫ: ДАСЬЛЕДУЙ СВАЁ ЦЕЛА

Сэксуальная рэвалюцыя пачалася тады, калі чалавек выкараскаўся з ласкавых абдымкаў шэрага натоўпу і ўсьвядоміў сябе індывідуальнасьцю. У тым ліку ўнікальнай біялягічнай адзінкай. Прасьцей: пачаў ацэньваць плюсы і мінусы ўласнай палавай прыналежнасьці. Болей мінусаў аказалася ў жанчын - ні адукацыі, ні права голасу. Ляжы сабе ціха ў віктарыянскай позе і прыкідвайся матрацам. Сюю-тую зь мяцежных духам (чытай: ідэалягічна падрыхтаваных рамантычнымі раманамі) прадстаўніц "слабога" полу гэта пачало даставаць. У 1832 г. Жорж Санд, літаратурны сымбаль фэмінізму 19 ст., выдае скандальны раман "Індыяна", дзе апісвае шлюб як самы ненавісны грамадзкі інстытут. Кніжку ўзахлёб чытаюць у самых занядбаных эўрапейскіх халупах.

Але ўжо ў той час існаваў кантынэнт, прадстаўнікі якога маглі ператварыць любую эстэтычную ідэю ў добра адладжаную PR-машыну. 1848 г. лічыцца годам нараджэньня першага амэрыканскага фэмінісцкага руху. Элізабэт Кэдзі Стэнтан і Люкрэцыя Мут арганізуюць у Нью-Ёрку Канвэнцыю па правах жанчыны. Шоў пачынаецца.

Мужчыны напачатку разгубіліся, заўважыўшы побач прадстаўніц ІНШАГА, а не другога полу. Сэксуальная МАРАЛЬ ПАЧЫНАЕ ТРАШЧАЦЬ ПА ШВАХ, тым болей што шытая яна яўна белымі ніткамі.

Для асэнсаваньня розьніцы паміж поламі культурныя лідэры выбіраюць шлях ЭКСПЭРЫМЭНТУ - пераапрананьня і зьмены роляў. Жанчыны-рамантыкі апранаюцца a la garcon. Мужчыны-рамантыкі вынаходзяць для сябе эстэтыку dandy. А "дэндзі лёнданскі" - гэта зусім не Мікола Піцерскі. Шыкоўны і модны стыль жыцьця слаба асацыюецца з вобразам сапраўднага мача. Таму мужчына ўсё больш становіцца падобны да фэміны: адзеньнем у рушачках, напамаджанай фрызурай і - чаго й варта было чакаць - паводзінамі. Пра дэндзі ходзяць легенды: будучы міністар Вялікабрытаніі Дызраэлі апранаўся ў "зялёныя аксамітавыя шаравары, канарэйкавага колеру камізэльку, адкрытыя чаравікі са срэбнымі спражкамі, кашулю, аздобленую карункамі..." На публіцы ён назнарок разыгрываў міні-пэрформансы, строячы зь сябе, паводле моды, сьпеставанага, падобнага да жанчыны маладога чалавека. Аднойчы падчас тэніснага матча мяч заляцеў у глядацкія рады прама яму пад ногі. Дызраэлі падняў яго, але замест таго каб закінуць назад, папрасіў зрабіць гэта суседа, матывуючы тым, што ніколі ў жыцьці ня кідаў мяч. Раніцай увесь Лёндан размаўляў пра гэтае дзівацтва.

**1893 – НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ СТАЛА ПЕРШАЙ КРАІНАЙ, ЯКАЯ ДАЛА ЖАНЧЫНАМ ПРАВА ГОЛАСУ. У 1902 ДА ЯЕ ДАЛУЧЫЛАСЯ АУСТРАЛІЯ, А У 1906 – ФІНЛЯНДЫЯ. У 1920 НАДЫЙШЛА ЧАРГА АМЭРЫКАНАК. ФРАНЦЫЯ ЗАСТАЛАСЯ ДАЛЁКА ЗЗАДУ – 1944. АПОШНІМІ ДА ФІНІШУ ПРЫЙШЛІ ШВЭЙЦАРЫЯ (1971) І ПАРТУГАЛІЯ (1977).**

Падпарадкаваўшы сабе форму, мужчыны ўзяліся за сутнасьць. Галоўны брытанскі гей Оскар Уайльд становіцца галоўным рэдактарам жаночага часопіса "Women's World". Прычым актыўна піярыць сваё выданьне, спрабуючы схіліць да кантрыб'ютарства Яе Вялікасьць каралеву Вікторыю і дастаючы сэкс-сымбаль эпохі Сару Бэрнар прапановамі падпісацца пад сваімі самымі "інтымнымі" матэрыяламі. Здавалася б, звычайныя інтэлігенцкія замарочкі. Але ўяві, як мусіў пачувацца ў такой культурнай сытуацыі нявінны буржуа, выхаваны на традыцыйных каштоўнасьцях "мужчына зьверху"!

## КРОК ДРУГІ: ПАКОРПАУСЯ ВА УЛАСНЫМ "Я" – ЗАЗІРНІ У "Я" СУСЕДА

Да пачатку ХХ ст. сытуацыя распальваецца настолькі, што ў мэдыцынскіх энцыклядыях "нэўроз на сэксуальнай глебе" пачынае фігураваць асобным вялікім разьдзелам. Эўрапейскай цывілізацыі спатрэбіўся кляпан, каб спусьціць эратычную пару. І такім кляпанам спрацаваў псыхааналіз. Гаворка нават не пра Фройда, хаця ля вытокаў тэарэтызацыі лібіда і сублімацыі стаяў, безумоўна, менавіта гэты тытан думкі. У рэвалюцыйны бок псыхааналітычныя лыжы завярнуў яго сьціплы асыстэнт - Вільгельм Райх. Прыхільнік сэксуальных рэформаў, ён у 1929 годзе наведвае Савецкі Саюз, які бачыць выдатным полем для сэкс-экспэрымэнтаў. Тэзыс - сацыяльная рэвалюцыя павінна скончыцца рэвалюцыяй сэксуальнай. Плюсы - СССР ужо стаіць на шляху рэвізіі маралі: яшчэ ў 1917 годзе ленінскімі дэкрэтамі ад-

менены пераслед гомасэксуалізму і легалізаваны аборт. Мінус - адсутнічае Тэорыя. Без тэорыі, як вядома, плодзяцца толькі шпанскія мушкі, а чалавеку гэта неяк не да твару. Яе, родную, і зьбіраецца выпрацаваць Райх.

Ягоная фундамэнтальная думка яўна не прэтэндуе на фундамэнталізм: для дасягненьня шчасьця чалавецтву неабходна выхоўваць станоўчыя адносіны да сэксуальнасьці зь дзяцінства. Райх у экстазе ад таго, як у савецкім дзіцячым доме Веры Шмідт дзеці свабодна займаюцца мастурбацыяй пад наглядам выхавацелек. У прыклад эўрапейскай культуры Райх ставіць прымітыўнае трабіянскае грамадзтва, якое ня ведае гвалту, самагубстваў, нэўрозаў і вычварэньняў на сэксуальнай глебе. А ўсё таму, што для трабіянцаў сэксуальнай таямніцы не існуе як такой. Іх дзеці зьдзяйсьняюць полавыя маніпуляцыі зь першых гадоў жыцьця, а грамадзтва клапоціцца пра ўтульныя намёты для гэтай грамадзка карыснай справы. Для Райха нават не істотны сам факт тых маніпуляцыяў, ён ставіць пытаньне аб ПРОЦІСТАЯНЬНІ ПРЫРОДЫ І МАРАЛІ. Фрэйдызм у спалучэньні з

**Д-Р КІНСІ БЫЎ ДАЛЁКА НЕ АНЁЛАМ У БЕЛЫМ ХАЛАЦЕ. ПА СЬВЕДЧАНЬНЯХ СУЧАСЬНІКАЎ, ЁН ПАСТАЯННА ЎЦЯГВАЎ СВАЮ ЖОНКУ І КАЛЕГАЎ ПА ПРАЦЫ Ў СЭКСУАЛЬНЫЯ ОРГІІ, ФІКСУЮЧЫ УСЁ ГЭТА НА ФОТА- І КІНАПЛЁНКУ. ДАКТАРАМ І АСЫСТЭНТАМ ЗА АДМОВУ ЎДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У "ДОСЬЛЕДАХ" ПАГРАЖАЛА ЗВАЛЬНЕНЬНЕ. МЭТАДЫ АПЫТАНЬНЯ ТАКСАМА БЫЛІ НЕ ЗУСІМ ДЭМАКРАТЫЧНЫЯ. НАПРЫКЛАД, ЗАМЕСТ ПЫТАНЬНЯ "ЦІ ЗАЙМАЛІСЯ ВЫ АНАНІЗМАМ?" КІНСІ ЦІКАВІЎСЯ: "У ЯКІМ УЗРОСЬЦЕ ВЫ МАСТУРБАВАЛІ ПЕРШЫ РАЗ?"**






марксызмам апынуўся ўбойнай штукай, ператварыўшы псыхааналіз у каталізатар "культурнага перавароту". Райха забараняюць камуністы, фашысты, сацыялісты, капіталісты і ўсе, хто толькі мог нешта забараніць. Яго выганяюць з Аўстрыі, Нямеччыны, Даніі, Швэцыі - адусюль, дзе ён бывае. Калегі-псыхааналітыкі ўрэшце ставяць яму дыягназ: шызафрэнія. ЧАЛАВЕЦТВА РАШУЧА СУПРАЦІЎЛЯЕЦЦА РАЗБУРЭНЬНЮ КУЛЬТУРЫ.

Але ў вялікага культурнага экспэрымэнтатара знаходзяцца пасьлядоўнікі... правільна, у ЗША. Што нечакана пры ўсім амэрыканскім кансэрватызме, але сьпішам гэта на дзіцячую непасрэднасьць амэрыканцаў. У студзені 1948 выходзіць дасьледаваньне псыхоляга Альфрэда Кінсі "Сэксуальныя паводзіны самца чалавека". Праца важыць паўтара кіляграмы, ня мае ніводнай ілюстрацыі, затое тысячы графікаў і табліцаў, каштуе ўдвая больш за любую звычайную кнігу і пры гэтым імгненна становіцца бэстсэлерам. Чаму? З-за высноваў, якія яна зьмяшчае. Аказваецца, з апытаных доктарам і яго памочнікамі 5.400 белых мужчын-амэрыканцаў 90% займаліся ананізмам, каля 85% мелі полавыя сувязі да шлюбу, ад 30 да 45% "хадзілі налева", каля 70% карысталіся паслугамі прастытутак і 37% (!) хаця б раз мелі зь іншым мужчынам сэкс, які прывёў да аргазму. Амэрыка ў шоку. Шок перарастае ў пэрманэнтны аргазм, калі ў 1953-м выходзіць другая "бомба Кінсі" - "Сэксуальныя паводзіны самкі чалавека". Фабула ня менш аптымістычная: амэрыканскія жанчыны пастаянна і з асаблівым цынізмам здраджваюць сваім амэрыканскім мужам. Карацей, УСЁ НЯ ТАК, ЯК МЫ ДУМАЛІ. Рэальнасьць, якая адкрылася перад вачыма homo sapiens, нагадвала добры наркаманскі адхадняк. І тут, у прынцыпе, можна паставіць кропку ў тэарэтызацыі. Далей пачынаецца практычная частка рэвалюцыі - абавязковы, але ўжо ня самы важны акт спэктакля.

## КРОК ТРЭЦІ: ЭКСПЭРЫМЭНТУЙ ЗЬ ЦЕЛАМ І ДУХАМ

Кінсі памёр у жніўні 1956 г. ва ўзросьце 62 год, упэўнены, што яго крыжовы паход за вызваленьне сэксу праваліўся. І ў тым жа годзе доктар Грэгары Пінкус з Бостану распрацоўвае маленькую пігулачку пад назвай "Энавід". Яна ўяўляе сабой спалучэньне прагестэрону ды сынтэтычных астрагенаў і зьяўляецца нічым іншым, як першым у гісторыі чалавецтва гарманальным кантрацэптывам. "Лекі" паступілі ў гандаль у 60-м. Гэты год і можна лічыць пачаткам сэкс-рэвалюцыі на практыцы. Першыя процізачаткавыя таблеткі імітавалі ў рэал тайме стан цяжарнасьці: прабівалі на ваніты, слабасьць і хуткі набор вагі. Але нягледзячы на гэтыя дробныя недахопы лічыліся сапраўдным цудам. Бо тое, што гадамі не ўдавалася шматлікай высакалобай братве, зрабіла маленькая пігулка спрасаванага парашку.

Ну, далей ты ведаеш. Поле бітвы акупуюць гіпі. Філязофія гіпі - гэта культ адчуваньня, мэтодыка асэнсаваньня ўласнага цела. Знакаміты пасаж зь дзёньнікаў Джыма Морысана: "Спытайцеся ў любога, якое з адчуваньняў ён беражэ больш за іншыя. Амаль усе адкажуць - зрок, паглянуўшыся пазбавіцца мільёну вачэй на целе дзеля двух у чэрапе. Асьлепнуўшы, мы маглі б жыць і, магчыма, знайшлі б мудрасьць. Без асязаньня мы б ператварыліся ў драўляных балванаў".

Усьвядоміўшы цела як ГІГАНЦКАЕ ВОКА, гіпі палюбіў сваю матэрыяльную абалонку. І пачаў яе разьвіваць. Але зусім не праз gym: пагарджаючы тленным інтэрфэйсам, ён пайшоў таямнічым шляхам пашырэньня сьвядомасьці. Дзякуючы кісласце гіпі здолеў зьдзяйсьняць "трыпы" ў паралельныя сьветы пад- і надсьвядомасьці. Сотні "самацэнных і ўнікальных" асобаў зьбіраюцца ў камуны. Хрэстаматыйны прыклад: у 1967 годзе ў Бэрліне стыхійна ўтвараецца "Камуна 1", дзе гіпі жывуць вялікай сям'ёй. Гэта была ня проста тусоўка (be-in), але LOVE-IN - тусоўка па сэксуальных інтарэсах. Моладзь разам займаецца каханьнем і ўсім кагалам гадуе дзяцей. А "нармальныя" бюргеры прыяжджаюць на экскурсіі. Ім вельмі падабаецца. Разам з усім усходнім у моду ўваходзіць тантрычны сэкс, хоць тантра трактуецца на ўзроўні "лотас - гэта такая кветка, а не парашок для праньня". Асаблівасьці эўрапеоіднага мысьленьня... (Падрабязнасьці - у "Элемэнтарных часьцінках" Мішэля Ўэльбэка.)

Гэтак нараджаецца т.зв. КОНТРКУЛЬТУРА - рух, які будзе дыктаваць свае вобразы, сваіх куміраў (напачатку рок-, потым якіх бог дасьць) і свой лад жыцьця цягам бліжэйшых дзесяцігодзьдзяў. Ханжы назавуць яго D-МАРКЕТЫНГАМ, расшыфроўваючы першую літару не іначай як drug. Натуральна, ім хацелася б загнаць усіх групэн, лесьбі, геяў і іншых дэвіянутых у гета і абкарміць бясплатнай наркатой - абы хутчэй здохлі і не засі*алі іхны вылізаны да бляску цацачны сьвет. Але ўсё новае мае звычку ператварацца ў мэйнстрым, інакш нашыя мамы ня слухалі б у свой час гея сэра (сэра гея?) Элтана Джона, а мы б ніколі не даведаліся, што бываюць такія дзяўчыначкі "татушкі". Мы даўно жывем у контркультурным вымярэньні. І гэта нармальна, як некалі адзіна нармальнай была поза місіянэра.

Апагеем практычнай сэкс-рэвалюцыі стала парыская вясна 68-га. Адной з фармальных яе нагодаў было патрабаваньне студэнтаў увесьці ў студгарадку ў Нантэры (прыгарад Парыжу) "больш лібэральныя парадкі", то бок чалавечай мовай - даць юнакам доступ у дзявочыя дартуары. У Францыі, нягледзячы на філязафічны лёск і фрывольны імідж, кансэрватыўныя погляды на полавае выхаваньне былі ў фаворы. Апагеем пэрформансу пад назвай "вясна-68" стала грандыёзная party у тэатры Адыён. На сцэне голыя маладзёны сваімі целамі выпісваюць слова A-N-A-R-C-H-I-S-M. Маўляў, вось табе, бабка-Эўропа, новая сыстэма каштоўнасьцяў. Менавіта пра апошнюю так любяць паразважаць сёньняшнія 50-зь-нечым-гадовыя парыскія інтэлектуалы, старанна ўцягваючы жывоцікі і прыгадваючы барыкады, мары ды ідэалы free love. І гэтае балючае пачуцьцё блізкай - толькі працягні руку - свабоды...

**БІБЛІЯГРАФІЯ ПРАКТЫЧНАЙ СЭКС-РЭВАЛЮЦЫІ:**

**1954 - ПЕРШЫ НУМАР "ПЛЭЙБОЯ". ЛЮБАЯ РЭКЛЯМА ПАВІННА ПАДТРЫМЛІВАЦЦА СЭКСУАЛЬНЫМ СТЫМУЛАМ.**
**1955 - "ЭРАС І ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ" Г.МАРКУЗЭ.**
**1955 - "КРЫК" А.ГІНЗБЭРГА, МАНІФЭСТ БІТНІКАЎ.**
**1956 - "ЛАЛІТА" У.НАБОКАВА.**
**1957 - "У ДАРОЗЕ" Д.КЕРУАКА.**
**1959 - "АГОЛЕНЫ СЬНЯДАНАК" У.БЭРОЎЗА.**
**ПАСЬЛЯ 1955 - "СЛОВА ПЕРАХОДЗІЦЬ ДА ЧЫТАЧА" (А.ГІНЗБЭРГ).**

## КРОК ЧАЦЬВЕРТЫ: СКАЖЫ СВАЙМУ ЦЕЛУ "БАЙ-БАЙ"!

Свабода прыйшла зьнянацку, і як заўсёды не адтуль, адкуль яе чакалі. Рэвалюцыя зноў знайшла прарэху ў сыстэме - на гэты раз слабым месцам аказалася кібэрпрастора. З узьнікненьнем інтэрнэту ўсё стала на свае месцы: у нармальным жыцьці ты можаш быць клеркам, банкірам ці 15-гадовай школьніцай з потнымі ручкамі, але варта табе трапіць у он-лайн - і ты набываеш новае, віртуальнае "цела", новую ідэйную абалонку, НОВУЮ СЭКСУАЛЬНАСЬЦЬ. Можаш уступіць у сувязь - у прыват-зоне ці проста на вачах ва ўсёй публічнасьці - з кім заўгодна на гэтым шарыку. Стваральнікі е-рэальнасьці даўно карпеюць над распрацоўкай дзілда-строяў і разнастайных датчыкаў-вібратараў, якія б генэравалі сэкс-задавальненьне, перамяшчаючы віртуальны кайф у цялесную плоскасьць. Але дасьледаваньні глохнуць, як ураджай на калгасным полі. Бо толькі самыя разумныя е-ідэолягі згадваюць: сэкс ніколі ня быў выключна фізіялягічным працэсам. Таму sexual revolution - гэта барацьба не за сэкс, але за ІДЭЮ СЭКСУ. Зараз чалавецтва само сабе даказвае, што маючы добрую ідэю можна абыйсьціся і бязь цела. У нэце нашмат больш прыемна, прычым тут амаль нічога за "гэта" ня будзе. Хіба што ты грамадзянін Сынгапуру, але там нават галімы "Cosmopolitan" забаронены. Ага, яшчэ: колькі год таму ў Канадзе абмяркоўваўся праект закону, паводле якога да крымінальнай адказнасьці трэба прыцягваць ня толькі стваральнікаў кантэнту ды правайдэраў інтым-парталаў, але і наведнікаў таксама. Ня ведаю, прынялі гэты закон ці не, але тое і не істотна: сындром пад назвай "вясна-68" перабіраецца ў віртуальную прастору. А таму - viva la revolution, як кажуць геніяльныя кубінцы.




*Мы мяняемся. Дарвін курыць бамбук, таму што сьвет НЕ ЭВАЛЮЦЫЯНУЕ. У падмурак сучаснай цывілізацыі закладзеная бомба сэкс-рэвалюцыі. Усе згаданыя падзеі - ня больш як чыканьне гадзіньнікавага мэханізму. Ірване абавязкова.*

# БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ СЭКС

■ тэкст: TaSola

## ТРАДЫЦЫІ І СУЧАСНАСЬЦЬ

**Паспрабую сьцьвердзіць: сэксуальнае жыцьцё на беларускай прасторы было заўсёды. Хто абвергне гэты звышарыгінальны ў двукосьсі пастулят? Нават калі бацькі на твой нявінны запыт у 5-гадовым узросьце разганялі ідэю пра функцыянальнае прызначэньне беларускай птушкі бусла, а бабуля ўцюхвала аксіёму "сэкс - брудная справа", то гэта зусім ня значыць, што бабуліны ногі ніколі не тырчэлі з духмянай сьцірты, а маці з бацькам ніколі не будзілі нязвыклым узроўнем дэцыбэлаў суседзяў за тонкай сьценкай кватэры...**

Сэкс і зараз жыве, таварышы! Гэтак жа, як жыў у Беларусі ў старажытныя часы, калі нашыя продкі швэндаліся па лясах і прыносілі ахвяры паганскім багам. Усе ведаюць пра вольныя нораву славянаў-паганцаў - і гэта праўда, якой процьма факталягічных доказаў.

### АД КУПАЛЬЛЯ ДА ЗАЛЁТУ

Асноўны і масавы размах душы і цела ў старажытных беларусаў прыпадаў на сьвяты. Прычым вольнасьць у сэксуальных адносінах падчас гульбішчаў была не самамэтай, а хутчэй служэньнем культу ўрадлівасьці і пладавітасьці. Ціпа, паглядзіце, о богі, што мы робім, і па нашым прыкладзе кахайце адзін аднаго і разраджайцеся даждж
ом, аўсом і цялятамі.

Тыповы прыклад - Купальле: сьвята летняга сонцастаяньня, якое здымала маральныя забароны і дазваляла жанчынам займацца сэксам з чужымі мужчынамі (ці мужчынам займацца сэксам з чужымі жанчынамі, ці...?).

Дарэчы, некаторых дасьледчыкаў не правядзеш: кіданьне дзяўчынай свайго вянка ў раку быццам бы з мэтай паваражыць насамрэч ёсьць сымбалем страты цнатлівасьці. Вянок інтэрпрэтуецца менавіта як сымбаль дзявоцкага стану.

Месяцаў праз дзевяць, у канцы сакавіка, на сьвет божы масава зьяўляліся жывыя "доказы" разгульнай ночы. Заўважце, 25 сакавіка беларусамі сьвяткавалася Зьвеставаньне (Благавешчаньне). Па павер'і, менавіта ў гэты дзень з выраю вярталіся буслы, якія, як раней лічылася (а зараз перайшло ў разрад жарту для немаўлятаў), прыносяць дзяцей...

Такіх сьвятаў у гонар розных паганскіх багоў каханьня, родаў і пладавітасьці на працягу чэрвеня - ліпеня было даволі шмат, таму да практыкі рытуальнага і ня толькі сэксу на фоне квітнеючых ляндшафтаў у гэты час людзі ставіліся спакойна. Як і да пазашлюбных дзяцей, народжаных у выніку такіх практыкаваньняў.

Зразумела, што з прыходам хрысьціянства такія праявы народнай пачуцьцёвасьці пачалі заганяцца ў патрэбныя межы. Але так проста прыхільнасьці не задушыш і не заб'еш...

### АД ПРАДЗЕДАЎ СПАКОН ВЯКОЎ

Час ішоў, рэлігія, выхаваньне, featuredфарматныя санкцыі (ад удару патэльняй да турмы) і астатнія сацыяльныя здабыткі не дазвалялі чалавеку займацца сэксам з тым размахам, як раней. Народ жа, ня будзь дурнем, пачаў прыкрываць свае жаданьні. Беларускія эратычныя - фрывольныя і танцавальныя - песенькі і прыпеўкі - гэта поўны ўлёт!

Частыя героі такіх твораў - дзед і баба, хлопец і дзяўчына, якія сварацца на глебе несупадзеньня сэксуальных апэтытаў адзін аднаго і спосабаў дасягненьня пастаўленых перад абвостраным лібіда мэтаў:

*А дзед боб малаціў,*
*Баба падсявала;*
*Дзед у бабы папрасіў,*
*Баба не давала.*
*Калі мне не дала,*
*Не давай нікому,*
*Заткні *** кулаком,*
*Уцякай дадому!*

Такое domestic violence у беларускім сяле.

Сэкс заўжды быў прэрагатывай маладых. Безумоўна, у нашых продкаў таксама не віталіся полавыя кантакты да шлюбу. Агульнавядомы абрад саджэньня маладухі, што зьбіраецца пабрацца шлюбам, на дзяжу, у якой мелася падыйсьці цеста. Рабіліся такія выкрутасы для таго, каб праверыць, ці захавала паненка сваю цнатлівасьць.

Як паказваюць жыцьцёвыя прыклады, хлопцам у гэтым сэнсе шанцавала болей, і досьведу ім удавалася паднабрацца крыху раней:

*Не ўважай, дзяўчыненько,*
*Што я хлопец малы.*
*Варушыце, варушыце*
*Яйкі як цымбалы.*

Матывы сарамлівасьці, зьвязанай з сэксам, і страху, што пра гэты працэс даведаецца ўся акруга, таксама аформіліся ў такія радкі:

*Ой патушу сьвечку,*
*Каб не было відно:*
*Зь дзеўчынаю лягу спаць,*
*Каб не было ўстыдна.*

*Ой, іду і баюся,*
*Ці ня выйдзе Маруся.*
*Ой, дала б такому,*
*Што ня скажа нікому.*

Клясычны прыклад паказвае вынаходлівы розум беларускіх дзяўчат у пляне пошуку спосабаў сэксуальнага задавальненьня, пацьвярджае, што ўзровень мужчынскай патэнцыі знаходзіцца ў адваротнай залежнасьці ад колькасьці выпітага алькаголю:

*Ішлі дзеўкі граніцаю,*
*Аба***лі пяты гарчыцаю.*
*Ішлі хлопцы мяжою,*
*Пілі піва дзяжою.*
*Пайшлі дзеўкі па край лугу,*
*Знайшлі *** так як дуга.*
*Адна кажа: ежмо!*
*Друга кажа: рэзьмо!*
*Трэйця кажа: не рухаймо,*
*Адна другой паштурхаймо.*

Тое, што розныя формы і канфігурацыі пакаханак былі вядомыя яшчэ нашым продкам, даказваюць фальклёрныя крыніцы. Возьмем, напрыклад, групавуху. Групавы сэкс як адзін з варыянтаў наладжваньня сэксуальных сувязяў быў глебай для творчага асэнсаваньня:

*Два дзядэ, два дзядэ.*
*Да на адну бабу,*
*А трэці маленькі*
*Пачапіўся ззаду.*

Тое самае, выбачайце за падрабязнасьці, тычыцца і заафіліі. Жыцьцёвыя нягоды і адсутнасьць паблізу падыходзячага сэксуальнага партнэра стваралі для чалавека праблему важнага выбару: дык з кім жа справу рабіць? Гэтая дылема вырашалася сытуатыўна і часам нечакана:

*А ў гародзі рэдзька,*
*На плоці пятрушка;*
*А дзед бабу *** ззаду -*
*Думаў, што цялушка.*

Карацей, народныя разгоны на эратычную тэматыку - едкія ды трапныя. І дагэтуль ацалелыя ў вёсках бабулькі могуць засьпяваць тако-о-ое...

### СЭКС, ЯКІ СЁНЬНЯ...

...можна абазваць беларускім народным, можна падзяліць на пэўныя тыпы (колькасьць якіх не абмежаваная). Некаторыя, найбольш распаўсюджаныя, паспрабуем агучыць.

**Народны сэкс па-старэйша-школьнаму**

Месца, час: перад заняткамі, падчас дзяжурства на настаўніцкім стале + пасьля заняткаў у гардэробе + падчас паходу на прыроду + падчас вечарынкі а ля "ў Дэцла дома".

Перашкоды: страх, сорам (у тым ліку набыць прэзэрватывы), малы выбар месцаў і добрае выхаваньне.

Вычварэньні: парушэньне статус-кво - партнэр-настаўнік(ца) і вахцёрка.

Магчымыя праблемы: асноўныя - зламаны настаўніцкі стол + бацькі рана вярнуліся зь лецішча + вахцёрка зацяжарыць.

**Народны сэкс па-студэнцку**

Месца, час: паездка на сельгасработы + на ложку ў інтэрнаце ў пакоі на 4-х чалавек + на кватэры падчас вечарынкі а ля "ў Дэцла дома" + без прывязкі да мясцовасьці і часу.

Перашкоды: мурашы на паляне, якія кусаюць голы зад, + неўраўнаважаная псыхіка 3-х суседзяў па пакоі + камэндант + канкурэнты... Насамрэч - ніякіх.

Вычварэньні: заняткі сэксам тады, калі ўсе астатнія калдыраць ("рана, яшчэ рана") + заняткі сэксам падчас лекцыі (парушэньне спрадвечнага проста-сну на лекцыях).

Магчымыя праблемы: сынхронны прыступ агрэсіі ў 3-х суседзяў па пакоі + бацькі, заклапочаныя накіраваньнем тваіх сілаў на атрыманьне адукацыі бязь іх распыленьня на ўсё іншае + вясельле + трапляньне ў войска з вынікаючым адсюль абмежаваньнем сэксуальнай свабоды.

**Народны сэкс па-супрацоўніцку**

Месца, час: у патаемных завулках офіса (для шараговага супрацоўніка асобны кабінэт - толькі мара) увечары + на паляне пасьля адзначэньня карпаратыўнага сьвята + у камандыроўцы на гатэльным ложку.

Перашкоды: адсутнасьць у офісе патаемных завулкаў + наяўнасьць у офісе вартаўніка (яшчэ горшы варыянт - вартаўніцы) + адзначэньне карпаратыўнага сьвята на паляне сканчваецца бойкай з гопнікамі + у камандыроўку вас накіроўваюць у розныя месцы + жонка/муж + адсутнасьць жаданьня займацца сэксам з-за стрэсаў і адсутнасьць магчымасьці.

Вычварэньні: сэкс з галоўбухам + сэкс з гопнікамі + грызоты сумленьня за бязмэтава патрачаны працоўны час.

Магчымыя праблемы: пабоі (праклёны, развод) ад жонкі/мужа пры выяўленьні факту зносінаў з супрацоўнікам + невыдзяленьне грошай на камандыроўку незадаволеным галоўбухам.

Карацей, варыяцыяў народнага сэксу - незьлічона. Толькі прыгледзьцеся да патаемнага сэксуальнага жыцьця беларуса - у гэтай сфэры ў нас усё пучком, і патэнцыял выпраўленьня дэмаграфічнай сытуацыі натуральным шляхам - агромністы.





фота: Benjamin Gaylord

ЗАПРАГРАМАВАНАЯ

# СЭКСУАЛЬНАСЬЦЬ



Кожнае маладое пакаленьне лічыць сябе сэксуальна свабодным-разьняволеным-незалежным. Нам хочацца верыць, што гарачая кроў у нашых жылах цячэ туды, куды яе нясе толькі нашае каханьне і ўласнае "я".
Мартын ШЭН ня ўпэўнены, што так і ёсьць.

Дзякуючы свайму экзатычнаму статусу - нямецкі студэнт у Беларусі - я ведаю шмат маіх землякоў, якія, як і я, знайшлі сваё каханьне тут. І мне здаецца, што ў вас сэксуальныя нормы значна больш тармазяць уласную свабоду маладога чалавека. Вядома, яно ня лепшым чынам адбіваецца на "інтэрнацыянальных зносінах", хаця гэта якраз справа дзясятая. Больш хвалюе - зьдзіўляе, сьмешыць - тое, што я, напрыклад, сустракаю шмат беларускіх дзяўчат, незадаволеных аўтаматызмам тутэйшіх сэксуальных адносінаў. Такой дзяўчыне здаецца, што на яе месцы можа быць любая іншая, што яна сама і ёсьць гэтая **любая**. Спачатку ён зьвяртаецца да яе на аўтобусным прыпынку зь нейкім камплімэнтам - хаця, больш магчыма, гэта будзе "куды едзем?" ці "можна папрасіць ваш тэлефончык?" Добра, калі было ня так, але ўсё роўна потым ён абавязкова запросіць яе ў рэстарацыю ці ў кіношку. Пачынаецца "падрыхтоўка тэрыторыі" - мужык робіць камплімэнты накшталт "якая ты прыгожая ды разумная". Потым запрашае дамоў, частуе віном і пераходзіць да фізычнага кантакту, "бо ведаем жа адно аднаго".
Божа ўсемагутны, ты мой сьведка, не хачу кепска казаць пра сваіх блізкіх зь Беларусі, але гэты **аўтаматызм**, гэтая прывязанасьць да "мужчынскіх" і "жаночых" абавязкаў мяне вырубае. Дзяўчына, калі зацікаўленая хоць трошкі, стопудова пачынае какетнічаць, падкрэсьліваючы пры гэтым сваю жаноцкасьць кожным рухам і крокам: яна будзе фліртаваць да пасіненьня, нарываючыся на новыя камплімэнты. Галоўнае тут - **"зазмагаць"** партнэра. Мэта: каб ён быў тваім. Зброя: супэрфігура, вузкая спадніца, макіяж... вельмі шмат макіяжу. Замежнік, прыехаўшы сюды, зьдзіўляецца прыгажосьці дзяўчат, але адначасова заўважае "тоўсты-тоўсты слой" на абліччы аб'екта інтарэсу. Затое пра немак, напрыклад, беларусы гавораць, што яны непрыгожыя і таўстыя... Сапраўды, немкі менш пакутуюць на сындром "клясычнай прынцэсы", часьцей апранаюцца па ўнісэксе і радзей карыстаюцца шаблёнам "я самая пекная, магу мець каго хачу, а на цябе, заморка, нават не зірну".
Але ня будзем спыняцца на зьнешнім выглядзе - справа хутчэй псыхалягічная. Бо беларускай дзяўчынцы, як бы яна ні жалілася на аўтаматызм схемы "кіно - віно - і ў люлю", падабаецца **мужчына** (тройчы падкрэсьліць). Мужчына ў клясычным сэнсе, моцны, грубаваты і надзейны. Ідзеш з такім дамоў - ён абавязкова цягне тваю сумку і пры гэтым адчыняе перад табой усе дзьверы. На гэтай крутасьці завязваецца і ўся рамантыка: "Няхай пакажа, што на ўсё для мяне гатовы..." Яно, вядома, прыемна. Але на Захадзе існуе яшчэ некалькі тыпаў мужчын. І зьвязана гэта з тым, што нормы значна менш абмяжоўваюць чалавечы індывідуалізм. Адносіны М/Ж - найперш адносіны паміж індывідамі. Кожны індывід мае сваю ўласную **identity**. Сумняюся, напрыклад, што сярэднестатыстычны нямецкі хлопец панясе дадому твае сумкі. Тым больш калі ты сьціпла адмаўляесься, ён дакладна навязвацца ня будзе. І не таму што хамло - ён ведае: калі адмовілася - значыць ня трэба. "**Не чапай маю ўласнасьць**" - найпершы прынцып індывідуалізму, і, адпаведна, хлопчык баіцца, што ты яго прагоніш.
Увогуле, нямецкі мужчына больш асьцярожны за беларускага. "І гэта пасьля ўсіх сэксуальных рэвалюцыяў?" - зьдзівісься ты. Менавіта так: мужчына пачаў шукаць новыя нішы, бо вобраз "крутога Ўокера" страціў актуальнасьць. Вось і нарадзіўся, напрыклад, той уразьлівы **мужчына-сябар**, які ўпрыгожвае сёньня значную тэрыторыю нямецкага ляндшафту. Шмат хто з маладых людзей мае дзяўчат-сяброўак і пры гэтым не расцэньвае такія адносіны як сэксуальныя. Гэта нават ня флірт: хлопец прыходзіць да яе дамоў, яна дзеліцца зь ім сваімі праблемамі і г.д. Ён для яе сябар, і на гэтым кропка. У Беларусі, здаецца, усё больш клясычна. Усім ад пачатку зразумела, хто чаго хоча. Падумай: што калі б дзяўчына магла расцаніць твае заляцаньні як спробу проста пасябраваць, а ты б увесь час парыўся, ці не ўспрымае яна цябе толькі як сябра? Галава пачынае круціцца, праўда? Разумееш цяпер крыўду беларускай дзяўчынкі, за якой ня "ўхажваюць" па дакладнай праграме? Калі яму нават і ў галаву не прыходзіць купляць ёй шакалядкі? У капіталізме кожны вырашае за сябе, у маёй краіне крыжакоў кожны мае свой панцыр, і жанчыны ўжо даўно самі сталі рыцарамі. Сумна глядзець на беднага немца, які спрабуе зразумець: Mein Gott, што я ня тое зрабіў? "Захацела б шакаляду - сама купіла б", - думае бязьвінны нашчадак тэўтона. Ажно пакуль яна, сьціплая беларусачка, сама яму ня скажа, у чым справа, адначасова пачуваючыся поўнай дурай...

Нашыя сэксуальнасьці розныя. Жыву тут тры гады і ніяк не магу разабрацца, якая зь іх лепшая. Што бліжэй да "сапраўдных" адносінаў? З аднога боку, асьцярожнасьць можа быць, даруйце, проста праявай культуры. Цяжка цярпець, калі ўлетку да тваёй дзяўчыны клеюцца на кожным сьветлафоры мача з замашкамі альфа-жывёлаў. Зь іншага - магчыма, уся гэтая вытанчанасьць-уражлівасьць - проста аграмадная памылка эвалюцыі, нездаровае адхіленьне ад сапраўднага, шчырага інстынкту. А можа, мы ўсе рабы сваіх нормаў: мы - нашых, вы - вашых? І не было ніякіх сэксуальных рэвалюцыяў?



# СЭКС-ІНСТРУКТАРЫ

## РАБІ З НАМІ, РАБІ ЯК МЫ, РАБІ ЛЕПЕЙ ЗА НАС!



**ЦІ РЫХТУЮЦЬ У ГЭТАЙ КРАІНЕ ГІГАНТАЎ, МАНЬЯКАЎ І ПРОСТЫХ СПАЖЫВАЛЬНІКАЎ СЭКСУ, ТЫХ, ХТО Ў ХУТКІМ ЧАСЕ ЗМОЖА ВЫРАШЫЦЬ НЯ ТОЛЬКІ ДЭМАГРАФІЧНУЮ ПРАБЛЕМУ, АЛЕ І ПРАБЛЕМУ КРЭАТУРЫ Ў БЕЛАРУСІ? ХТО ГЭТА РОБІЦЬ НАЙБОЛЬШ ЗАЎВАЖНА І ПРАФЭСІЙНА, ЯКІЯ ПЭРСОНЫ ЎЗЯЛІСЯ ЗА НЯЛЁГКУЮ МІСІЮ ПУБЛІЧНЫХ СЭКС-ІНСТРУКТАРАЎ? ГЭТА СПРАБУЮЦЬ ЗРАЗУМЕЦЬ ВАЛЯНЦІН ПАПЛЯЕЎ І ВЯЧАСЛАЎ ЧЭХ.**

## ВАДЗІМ КАСАЛАПАЎ
**ВАКАЛІСТ ГРУПЫ NEO**

Адна з самых рэальных кандыдатураў на тытул "экспартнай" поп-зоркі Беларусі. Прынамсі, зараз NEO выглядае больш упэўненай за астатнія "маладыя" каманды. Фронтмэн, вакаліст і аўтар тэкстаў Касалапаў - адзін з буйнейшых козыраў гурта.



Да "пісаных прыгажуноў" Вадзіка не аднясеш, але нязломнае пачуцьцё гумару разам з тактам, небанальны інтэлект і ўменьне падабраць ключ да любой, самай закавырыстай дзявочай душы робяць яго адной з самых прывабных асобаў беларускага шоў-бізу. Цалаваньне і пэтынг мікрафоннай стойкі, якія падмацоўваюцца чэрававяшчаньнем гіта "Эва" ў стылі "ката цягнучага", заводзяць самых халодных дамаў. Глядзячы на яго, дзяўчыначкі-нэманкі вераць у тое, што сэкс - штука ня толькі модная і прыемная, але і вясёлая, раскаваная і карысная для здароўя. Касалапаў тым часам элегантна працягвае...

У NEO прысутнічае яшчэ адзін сэкс-інструктар - гітарыст Андрэй Маркуц, які ў свае зусім ня 23 выглядае і паводзіць сябе на ўсе 23. Але трагедыя яго жыцьця - прыроджаная маўклівасьць на сцэне (бэкі ня лічацца). Хаця на такіх "маркуцаў" вядуцца самыя вытанчаныя і патрабавальныя фэміны "за 25".

**СТЫЛЬ: Дамскі Ўгоднік.**
**З КІМ ПАРАЎНАЦЬ: з Элвісам. З гэтым пагодзяцца ўсе, хто бачыў Вадзіма на сцэне.**
**ЧАМУ ВУЧЫЦЬ: ненавязьліваму і вясёламу спакушэньню.**

## ТАМАРА ЛІСІЦКАЯ
**ДЫ-ДЖЭЙ "АЛЬФА РАДЫО", ВЯДУЧАЯ БТ**

Тамары, уладальніцы аксамітнага голасу, магічна-заклікальнага позірку зялёных вачэй і раскошных формаў, не прывыкаць да тытулу сэкс-зоркі. Яшчэ напачатку 1990-х яе імя было ахутана легендамі. Зараз гэтая жанчына ў роскваіце ўсіх сваіх талентаў, яна цьвёрда ведае, што можа і чаго менавіта хоча. Часта балянсуючы ў сваіх тэле- і радыёэтэрах на мяжы кічу, Тома ніколі не зрывалася ў пошласьць, і нават калі па яе твары часам прабягала стома, яна выглядала смутна-эратычна. Мара салідных мужчын, якія слухаюць этэр "Альфы" ў ноч зь пятніцы на суботу і задуменна п'юць каньяк пад БТ у ноч зь серады на чацьвер.



**СТЫЛЬ: тыгрыца на паляваньні.**
**З КІМ ПАРАЎНАЦЬ: прынцыпова непараўнальная.**
**ЧАМУ ВУЧЫЦЬ: хто патрапіў, я не вінаватая.**

## ЛЮСЯ
**ВІ-ДЖЭЙ ПЕРШАГА МУЗЫЧНАГА КАНАЛА**

Люся толькі пачынае кар'еру сэкс-інструктара. Але дзяўчына яна дасьведчаная. Гэта можа сказаць любы больш-менш мужчына, які толькі кіне позірк на Люсін прывабны роцік.

Забойча дакладна выбрала патрэбны народу імідж капрызьлівай і зьдзіўленай німфы зь велічэзнымі вачыма, у якіх штурхаюцца махровая распуста і наіўнасьць дзевяцікласьніцы.



Зрэшты, сапраўдныя дзевяцікласьніцы проста шалеюць, калі бачаць Lusy на экране. Пра гэта яны не забываюцца паведаміць такім жа малалеткам у "піпл-чаце", на форуме сайту 1М і ў школьнай прыбіральні, дзе ўжо пасьля трэцяга пачка L&M разьвіваюцца з бляскам гідрапірыраваных валасоў, белымі зубамі і добрымі манэрамі like a virgin назаўжды.

Калі 1М уключаюць хлопчыкі з простых сем'яў, дык яны вучацца на Люсіным прыкладзе зносінам (ва ўсіх сэнсах гэтага слова) з такім распаўсюджаным зараз тыпам жанчын.

...А цалкам можа быць, што і мастурбуюць - мы ня ў курсе.

**СТЫЛЬ: я пакуль яшчэ дзяўчынка.**
**З КІМ ПАРАЎНАЦЬ: Твігі.**
**ЧАМУ ВУЧЫЦЬ: усё ж такі цікавае яно, жыцьцё неразбэшчанай дзяўчынкі, ці ня праўда?**

## ЭЛЕАНОРА ЯЗЭРСКАЯ
**ЭКС-ТЭЛЕВЯДУЧАЯ**

Занядбаная гаротнай доляй былая зорка БТ, затурканы пэрсанаж дохлых сьвецкіх кронік, які вымушаны быў сысьці ў самотнае апазыцыйнае падполье.

Па вэрсіі самой Язэрскай, яна знаёмая Віталя Вульфа ды іншых прадстаўнікоў недакранальнай багемнай касты. Усё жыцьцё прагнула быць яе часткай, але насамрэч заўсёды заставалася ядравай квінтэсэнцыяй пошасьці, невыноснага псэўда-густу і "калгаснага" кічу, што парадаксальным чынам давала ёй права звацца "нацыянальным здабыткам".



У палюбоўніках у яе хадзіў сьпявак Віталь Жукофф. Цётак за пяцьдзясят звычайна цягне да маладых, але нешта ў іх там ня склалася.

Вамп-жанчына з настаўніцкімі схільнасьцямі: менавіта да такіх дамаў у салёны ў пазамінулым стагодзьдзі прасунутыя інтэлігенты-бацькі адпраўлялі сваіх сыноў, каб тыя пазбаўляліся цнатлівасьці ў заўсёды пяшчотных і гарачых абдымках.

**СТЫЛЬ: паляўнічая на нявінных.**
**З КІМ ПАРАЎНАЦЬ: мадам Грыцацуева. Наглядчыца зь мюзыкла "Чыкага".**
**ЧАМУ ВУЧЫЦЬ: цётачкі таксама хочуць.**



## ГАННА ШАДРЫНА
**ЖУРНАЛІСТКА**

"Залатое пяро" "Советской Белоруссии", вядучая тэлевізійнай праграмы "Школа злословия" на Першым нацыянальным канале. Мясцовая сэкс-бомба з прэтэнзіяй на багемны злом усіх маральных бар'ераў ня толькі ў журналістыцы, але і ў сэксе, - калі ўжо і групавуха, і аднаполы лав - норма і амаль не правакацыя.

У адным са сваіх артыкулаў неяк прызналася, што абедае ў цэнтры Менску і штодня сустракае то немца, то ангельца. Гэта пакідае ў паненкі адчуваньне, што жыве яна ў цывілізаванай эўрапейскай краіне. (Дзякуй Богу, хоць у каго-сьці ёсьць гэтае адчуваньне.)



Фатальная прыгажунька, цацанка не для ўсіх. Адно што неяк губляецца на фоне больш самаўпэўненай і на людзях архі-экзальтаванай кампаньёнкі Вікі Паповай. Хаця і ў Ані пантоў вышэй даху.

Вочы карычневыя. Спрабуе размаўляць з маскоўскім акцэнтам, але атрымліваецца не заўсёды.

...Так і бачу сьвінцовыя ноздры спадарыні Ш., пад завязку забітыя какаінам, яна аж енчыць, седзячы верхам на якім-кольвек прадстаўніку арабскага ці скандынаўскага сьвету. Але, на жаль, вядома, што Шадрына тусавалася са звычайным апэратарам з БТ. Якія ж тут вам скандынавы! Патрыётка "самая настаящая".

**СТЫЛЬ: take me, дзядзька вунь з таго "пэжо".**
**З КІМ ПАРАЎНАЦЬ: пасталелая Лаліта, недасьпелая Стоўн з "Асноўнага інстынкту".**
**ЧАМУ ВУЧЫЦЬ: лёгка разьвітвацца з грашыма.**

## ДЗІМА ШЭПЕЛЕЎ
**ДЫ-ДЖЭЙ, ВЯДУЧЫ ПЕРШАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА**

Нішу маладзенькіх сэкс-ікон (ну добра, такіх pocket-варыянт іконак, якія носяць на іспыты дуракі-студэнтачкі) можа запоўніць сабой Дзіма Шэпелеў. Вось хто ўжо выклікае эратычную прагу дзяўчат-падлеткаў і зайздрасьць аднагрупнікаў з журфаку!

Наўрад ці Шэпелеў ведае шмат позаў, яго канёк - кансэрватызм, пяшчота і чуласьць, а "Камасутру" цытуе выключна дзеля эфэктнай фразы перад чарговым гітом на "Альфе". Яго б голым на вокладку CD, але нашаму грамадзтву не патрэбны ня толькі Васіль Быкаў, але і сэкс-ідалы. Не шануем мы сваіх хлопцаў, таму і няма ўласных ды капрыё, шатуновых, камолавых ці на благі канец фёдараў паўлавых-андрыевічаў.



Шэпелеў быў першым, хто ўзварушыў балота сваім не па-беларуску бадзёрым тварам і вэрбальнай эстэтыкай а-ля ранішняе шоў якой-кольвек пэрыфэрыйнай FM-станцыі. Спачатку ён кагосьці раздражняў, потым выклікаў зайздрасьць, што трансфармавалася ў дэманстратыўную абыякавасьць.

Зараз Дзіма робіцца закладнікам іміджу "бадзёрага скаўцкага актывіста", некаторая колькасьць рамантычна-нэўрастэнічных фарбаў яму не зашкодзіла б.

І ўсё ў яго будзе добра, калі прага да новых эмоцыяў і адчуваньняў ня зьверне шэпелеўскае лібіда, як гэта часта адбываецца ў разбэшчаным багемным асяродку, са сьлізкага гетэрасэксуальнага шляху!

**СТЫЛЬ: малады, ды раньні.**
**З КІМ ПАРАЎНАЦЬ: Камолаў.**
**ЧАМУ ВУЧЫЦЬ: любіць беларускае.**

## УЛАДЗІМЕР НЯКЛЯЕЎ
**ПАЭТ**

Як казаў Блок, сапраўдны паэт перш за ўсё палюбоўнік. Палюбоўнік у самым высокім сэнсе - часу, сусьвету, жанчыны.

Нашыя паэты ў большасьці ціхія вычварэнцы - няголеныя і сьмярдзючыя. Выключэньні - Бураўкін з Барадуліным, якія ў свае немаладыя гады захавалі бадзёрасьць цела і духу.

Паэт Някляеў за пляшкай гарэлкі любіць узгадаць, як "трушчыў камсамолак" у камсамольскім жа юнацтве. У любой кампаніі, дзе ёсьць прыгожыя жанчыны, Някляеў сумаваць ня будзе. Інтэрвію са спадаром Уладзімерам для адной менскай журналісткі ледзь ня скончылася актам. Шкада, канечне, што журналістка была дасьведчаная і з добрай газэты...


Irex/ProMedia

Зьбег на чужыну ад лапаў рэжыму, каб ня страціць тонус.

**СТЫЛЬ: спакушальнік стажорак зь філфаку.**
**З КІМ ПАРАЎНАЦЬ: Сяргей Паратаў зь "Бесприданницы" А. Н. Астроўскага.**
**ЧАМУ ВУЧЫЦЬ: усе мужыкі казлы, а паэты - казлы з крыламі.**

## СЯРГЕЙ ЧЭКЕРЭС
**ВЯДУЧЫ АКТОР НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРУ ІМЯ ГОРКАГА**

Ставячы пад сумнеў разнастайнасьць акторскай палітры Чэкерэса, нельга не прызнаць яго моцную эратычную энэргію, якая флюідамі дасылаецца са сцэны ў партэр цягам усяго спэктакля. Дзеўкі бегаюць на яго па некалькі разоў, дзеўкі ад Чэкерэса млеюць: "Гамлет", "Папа! Папа!", "Чудакі" - там ён сьпявае, танчыць і размаўляе.



Чаму ён не зьбягае з кволага тэатру куды-небудзь па лепшую долю - невядома. Можа, статус маладога бацькі ўвёў Чэкерэса ў стан унутранай гармоніі з самім сабой, сьветам і жыцьцёвымі абставінамі.

Новы твар Рускага тэатру замест мастадонта Расьціслава Янкоўскага, які заўсёды вылучаўся добрай патэнцыяй на сцэне і па жыцьці, становіцца прывабным і жыцьцяздольным у межах агульнай мэгасэксуалізацыі культуры.

**СТЫЛЬ: певень зь яйкамі.**
**З КІМ ПАРАЎНАЦЬ: Антоніё Бандэрас.**
**ЧАМУ ВУЧЫЦЬ: тэатар - тэрыторыя сэксу.**

# МЭГАСЭКСУАЛЫ





тэкст: Андрэй Гнёт



**Прыемна казаць пра зьяву "мэгасэксуалізм" у краіне, дзе і сэксу намінальна не было. Хутчэй, полавыя зносіны дзеля самаўзнаўленьня на мэдыка-тэарэтычным узроўні. Гэта канечне так, афіцыйна. Насамрэч сьціплыя кроплі агульнасусьветнага сэкс-ліўня даляталі і да нас. Раней, за савецкім часам, кажуць, быў ня лівень, а так, дробненькі дожджык. Зараз мы ў свабодным грамадзтве - прынамсі, я сябе ў гэтым кожны дзень запэўніваю (часам беспасьпяхова, але імкненьне заслугоўвае ўхвалы!). Карацей, доступ да інфармацыі сэксуальнага кшталту нічым не абмежаваны. Таму і паразмаўляем пра мэгасэксуалаў - прынамсі, ёсьць пра што.**

## H I S T O R Y

*"Ён добра апрануты, схільны да самалюбаваньня, заўжды заклапочаны сваёй зьнешнасьцю. І ўсё-такі ён не гомасэксуаліст. Марк Сымпсан прыдумаў тэрмін "мэгасэксуалізм", пад якім і ўяўляецца нам новы сацыяльны фэномэн".*

Відавочна, што фэномэн той вынайшла выключна рэклямная індустрыя. Гэта ўжо пасьля дадзеная зьява набыла сацыяльны характар. Першапачаткова ж - удалы інструмэнт для ўпарваньня прадукту спажыўцу. Тавар мусіць мець свой твар. Прычым як мага больш прывабны і ўнівэрсальны, каб ахапіць максымальную колькасьць мэтавых групаў.

Жаданьне мець стройнае бронзавае цела, якое зьнемагае пад нядбалымі промнямі экватарыяльнага сонца, аваладвае кожным першым. Лёгкасьць думак і рухаў, сьвежасьць паветра і бялізны, безумоўная самаўпэўненасьць, бязьмежная сэксуальнасьць і бязьлітасная прывабнасьць - сусьветная мара, ад падлетка да пэнсіянэра. Асноўная ж рухаючая сіла, як ні круці, - па Фройду. Вельмі моцны безумоўны рэфлекс, варта сказаць.

Добры прыклад надта заражальны. Атрымліваецца, перацякло з прафэсійнай індустрыі абалваньваньня ў сацыяльную сфэру. Зрэшты, варта ўсьведамляць, што мэгасэксуалам называюць зусім не таго, хто за ноч мае дзесяць полавых актаў.

Мэгасэксуалізм гэтак жа незалежна вызначае сябе, як гома- і бі-. Толькі ў апошніх двух гэта фізіялягічная патрэба, а тут - набытая сынтэзаваная мадэль паводзінаў і ў пэўным сэнсе лайф стайл. Вось вам цытата Наталі Мядзьведзевай (кажуць, ці то няшчаснае здарэньне, ці то перадоз - карацей, памерла яна, хаця ў любым выпадку вельмі шкада, бо і насамрэч яркая была, зь лёгкім налётам багемнай вульгарнасьці): "Нейкі Марк Сымпсан прыдумаў тэрмін "мэгасэксуал", а мой знаёмец, мастак W.Brui, называў гэта проста і па-расейску - "дынама". Круціць дынама - быў такі тэрмін для тых, хто спакушае, але не дае. Былі дынамшчыцы. Зараз да іх дадаліся дынамісты".

## N O W A D A Y S

Дзіўным чынам носьбітамі мэгасэксуальнасьці зьяўляюцца ў большасьці мужчыны. Відавочны ўплыў pede. Тут ужо ці жанчына-вамп, гэткая лярва, ці гіпэрмодны і гіпэрсэксуальны мача.

У якасьці першакрыніцы выступаюць, безумоўна, пэрсоны шоў-бізу. Менавіта зь іх у выніку і робіцца калька. Яны - дзьвюхгаловыя арлы, якіх улагоджваюць і занюханыя гетэрасэксуалы, і экзальтаваныя гома. Гэта аб'екты сьляпой імітацыі і нястрымных сэксуальных фантазіяў. Некалькі сьціплых прыкладаў.

Дэвід Бэкхэм далібог ня стаў бы горай граць у футбол, калі б ня зьняўся для ангельскага гей-часопіса. І лепей таксама. Але любіць яго сталі яшчэ больш моцна і мужчыны, і жанчыны. Добрая нагода для падняцьця ганарару.

Вось жа якая штука, зноў усё ўпіраецца ў грошы!

Дык вось. Бэкхэм не цураецца эпатажных выпадаў, бо зараз гэта норма. Пафарбаваў пазногці ў ружовы колер і апрануў майтачкі жонкі - набыў прыхільнікаў-пэдэрастаў; забіў парачку эфэктных галоў - умацаваўся ў вачах заўзятараў пабаў; зьмяніў прычоску - заахкала жаночая палова. Між тым дзядзька Бэкхэм усё гэтак жа пераканаўча распавядае пра сваю гетэрасэксуальнасьць (хаця гэта яго асабістая справа!).

Ёсьць і яшчэ адзін аспэкт, які стаіць адразу пасьля грошай. Пачуцьцё значнасьці з прысмакам нарцысызму - яшчэ тая рухаючая сіла! Для спажыўца сярэдняй клясы - самая галоўная. Заробак студэнту-рабацягу за джынсы "ў абцяг" і "нагеленую" прычоску наўрад ці падымуць, а вось прыхільніц-прыхільнікаў дадасца. Таму і разглядае ён фота Бэкхэма ў модных часопісах не з-за цікавасьці да футболу, а з-за інтарэсу да пэрсоны.

Для некага гэта нагода заняцца мастурбацыяй, а для некага - жывы прыклад ярка выражанай мэгасэксуальнасьці.

Яны на крок наперадзе.

Складана адгадаць інтарэсы аўдыторыі ня сёньня, а заўтра. Зараз нават на рынках гораду можна адшукаць майткі зь ільвом на прычынным месцы, а пару гадоў таму шчыроты Робі Ўільямса ў кліпе "Rock DJ" зьбянтэжылі нават эўрапейцаў. Тады кліп урэзалі, матывуючы процьмай крыві і мяса. Насамрэч гэта была дэманстрацыя ўласнага "я" з пазыцыяў мэгасэксуала, а лібіда ў некаторых так і затрымцела!!!

Апошняе відэа Ўільямса - наагул ілюстрацыя да вечарынкі ў стылі групэн-сэкс: у адным ложку груды целаў рознай масьці, і хто як хоча і з кім заўгодна. Матыў на паверхні: я - мэга, хачу і магу з усімі! Шараговы спажывальнік сядзіць раскрыўшы рот: "Афігець... Вось бы мне так!"

Зараз кожны можа паспрабаваць сябе ў падобнай якасьці. Болей спускай грошай на сябе, часьцей круціся ля люстра і не забывайся на існыя прыклады. Літаральна ўчора казалі пра ГОМАкультуру, а сёньня надыйшла МЭГАэпоха. Мужчынская фарба для валасоў, жаночыя

мабільнікі і аўтамабілі, аксэсуары ўнісэкс - толькі прадвесьце эпохі мэгасэксуалізму. Адбываецца працэс татальнай унівэрсалізацыі.
Жанчына ў нагавіцах таксама была некалі суб'ектам грамадзкай ганьбы. Спрадвечна мужчынскае адзеньне перайшло да паненак, і ўсе супакоіліся.
Зь іншага боку дэпілятары для мужчын пакуль выклікаюць шмат спрэчак.

## MADE IN BELARUS

Штодзённае ўзгадваньне пра тое, што мы - жыхары выключна балотаў і лясоў з адпаведнымі маральнымі ўстоямі і прынцыпамі, сфармавала ў падсьвядомасьці беларусаў процьму комплексаў. Пакатайцеся ў грамадзкім транспарце, нарэшце. У галовах пераважнай большасьці мір і спакой. Але толькі да таго часу, пакуль гаворка не заходзіць пра ўласнае "я".
Вазьміце нічым не заўважнага мазгавітага менскага студэнта і параўнайце яго з такім жа сярэднім па статусе эўрапейскім. У той час калі другі будзе пачувацца больш рэспэктабэльным і прасунутым, айчынны "перац" узьненавідзіць сябе і акаляючых (і гэта ў лепшым выпадку!). Бо перавага відавочная, ня кажучы ўжо пра сэкс (для падрастаючага айчыннага мужчыны - хворае пытаньне!).
Так ці інакш, "забугорныя" мэгасэксуалы выклікаюць захапленьне, зайздрасьць і букет комплексаў адначасова. Інфармацыйная прастора ў нас практычна ідэнтычная: і тыя ж часопісы, і тая ж музыка, і такое ж кіно, і падобнае адзеньне разам з таемнымі жаданьнямі. А вось рэальнасьць розная. Але калька ўсё адно **ІДЭНТЫЧНАЯ!** У тым і заключаецца асноўны ўнутраны канфлікт - нараджэньне пачуцьця маркотнай непаўнавартаснасьці. У яе дзьве функцыі - ярмо і рухаючая сіла, перамешаныя плюсы і мінусы.
**ЯРМО.** Часам сьляпая імітацыя заходніх мэга робіць беларусаў вар'ятамі. Тыя, каго лёс ці спонсар узнагародзілі грашыма, не задумваючыся трацяць іх на шмоткі, касмэтыку, парфуму, салярыі, фітнэсы і спартзалі, на нікому не вядомыя салёны з дурнымі стылістамі, буржуйскія забягалаўкі, новыя мабілы (штомесяц), таніраванае шкло і чорт ведае на што яшчэ. Праяўляецца ярка выражаны комплекс правінцыяльнасьці.
У адчайных спробах зламаць гэты стэрэатып той, хто, як той казаў, дарваўся, ужо пачынае забывацца, дзеля чаго ўвесь гэты сыр-бор распачалі. Так і хочацца запытацца : "Ты што, пра гэта ўвесь час і марыў?!"
Зразумела адно: быць мэгасэксуалам яшчэ і задорага. Але нават калі ў кішэні дзірка, нашыя ўсё адно не здаюцца: можна некаму - значыць, можна ўсім. Вось і назіраем за ўкормленымі быкамі (тварам выдаюць сябе...) у дзіўным для іх выглядзе: мэліраваныя валасы пад гелем, ружовыя ці іншыя "пяшчотныя" майкі ў абліпон a la pede, часам трапляюцца з завушніцамі ў вушах (для вышэйшай крутасьці). Пры гэтым ніводзін зь іх нават не ўяўляе, навошта ўвесь гэты маскарад...
Праблемаў з сэксам можа і менш, а ў астатнім - усё па-ранейшаму: вадзяра, бабы, хадзем мачыць підараў... І хай потым вашая знаёмая подла чырванее з-за таго, што набыла ўльтрамодную спадніцу з кішэнькамі наперадзе і толькі пасьля даведалася: гэта тыпова лесьбійская фішка. Маем яшчэ адзін фэномэн - імітацыя мэгасэксуальнасьці.
Пранікненьне мэгасэксуальнасьці нарабіла справаў куды больш сур'ёзных, чым можна было прадбачыць. Карэнным чынам зьмянілася сьвядомасьць.
У нашай краіне паціху зьнікла само паняцьце сяброўства, бо мэгасэксуалы прапагандуюць зусім іншае. Увага надаецца выключна самому сабе - гэта і ёсьць клопат пра сваё "я"; увага пераключаецца на іншых - гэта ёсьць сэкс. Вось і ўсё.
За што сапраўды варта ненавідзець мэга, дык гэта за зьнішчэньне сяброўства ў сьвядомасьці беларусаабывателя. Мужчынскае сяброўства - "яны геі!", жаночае - "яны лесьбіянкі!", мужчына і жанчына - "яны адназначна сьпяць адно з адным!"

**РУХАЮЧАЯ СІЛА.** Мэгасэксуалізм правёў рэальны лікбез.
Напачатку была падрыхтаваная глеба. Жанчыны даведаліся аб пракладках, мужчыны - пра антыпэрспэранты, а пасьля кожны стаў вучыцца гэтым карыстацца. Думаеце, я аджартоўваюся? Дзе там! Раю зноў уважыць тралейбусы і мэтро. Летам можна задыхнуцца, зімой - стаць заікам ад перапуду. Да некаторых гігіенічная рэвалюцыя яшчэ не дабралася, ня кажучы ўжо пра модную. А мэгасэксуалы, узброіўшыся рэклямай, мэтадычна граюць на нэрвах, хоцькі-ня-хоцькі падштурхоўваючы бліжэй да люстра...
Усё ж такі нешта зьмянілася, і адназначна да лепшага: людзі сталі больш увагі надаваць свайму зьнешняму выгляду, сталі ня толькі лепей апранацца, але і разьбірацца ў пахах. Альбо хадзіць у гей-клюбы напачатку як у заапарк, потым - як на панэль, а ўжо пасьля як у самы звычайны клюб.
Мэгасэксуалізм для нас як тая культурніцкая рэвалюцыя, і пакуль гэтая зьява не прымае пагрозьлівых формаў, яе трэба песьціць. Уласны сок трэба аднаўляць, інакш ён скісьне.
І наагул, кіньце ў мяне камень, калі вам ні разу не хацелася хаця б на імгненьне апынуцца на месцы самага сапраўднага мэгасэксуала. Хаця б зь цікавасьці...



# УСЕ ЛЮДЗІ РОБЯЦЬ ГЭТА

## МАСТУРБАЦЫЯ ФОРЭВА!

Віялета Золак
Андрэас Копыс
Слава Скугарэўскі

**ВІДОВІШЧА АМАЛЬ ЯК У ТЫМ КЛІПЕ. ЯНА ПРЫПЛЮШЧВАЕ ВОЧЫ, АДКІДАЕ ГАЛАВУ. РУКА ПАЧЫНАЕ РУХАЦЦА БОЛЬШ ІНТЭНСІЎНА, ДЫХАНЬНЕ ПАЧАШЧАЕЦЦА, ТВАР ЧЫРВАНЕЕ, А ФАНТАЗІІ РОБЯЦЦА ДЗІКІМІ І СЬМЕЛЫМІ. "ЁН ПАДЫХОДЗІЦЬ ЗЗАДУ... ПРЫЦІСКАЕЦЦА, ПРАВОДЗІЦЬ ПА ВАЛАСАХ РУКОЙ... ПРЫМАЕ ІХ З ШЫІ... І ВОСЬ ЯГОНЫ ЯЗЫК ЛАШЧЫЦЬ МОЧКУ ВУХА... ГРАЕЦЦА ЗЬ ЁЙ... ДРУГАЯ ЯГО РУКА МАСІРУЕ ГРУДЗІ... АПУСКАЕЦЦА ДА ВІЛЬГОТНАГА ПУПКА І КАЗЫТАЕ ЯГО... ПОТЫМ СЬЛІЗГАЕ ТУДЫ... НІЖЭЙ, ЯШЧЭ НІЖЭЙ, ЯШЧЭ, ЯШЧЭ, Я-А-А-А-АХ!.." ЗДУШАНЫ КРЫК ЗАГЛУШАЕЦЦА ШУМАМ ВАДЫ, ЯКАЯ ЛІЕЦЦА Ў ВАННУ З ШАЛЁНАЙ ХУТКАСЬЦЮ, НІБЫТА ІМІТУЮЧЫ ВЫКІД СПЭРМЫ, І ПАДМАЦОЎВАЕ КАЙФ ЯЕ АРГАЗМУ. ПРАЗЬ НЕКАЛЬКІ ХВІЛІНАЎ, РАССЛАБЛЕНАЯ І САМАЗАДАВОЛЕНАЯ, ЯНА ЗДУВАЕ ПРЫГАРШЧУ ПЕНЫ З ДАЛОНІ І ПАРАЛЕЛЬНА ПРЫДУМЛЯЕ МЭЛЁДЫЮ ALLEGRO НА КЛЯСЫЧНАЕ НАРОДНАЕ: "ІЗНОЎ ВЯСНА, ІЗНОЎ ГРАЧЫ, ІЗНОЎ НЯ ДАСЬЦЬ, ІЗНОЎ..."**



Насамрэч праз сытуацыю, калі рука - стройная бляндынка ці двухмэтровы атлет, - праходзіў кожны нармальны чалавек.
Калі гэты чалавек быў музыкам, ён сядаў і ствараў блюз. Мяне кінула мая малая, задзяўбала адзіноцтва. Бэйбі, кам бэк... І іншае. Але блюз выратоўвае, на жаль, не заўжды. І нават блюзмэны наўрад ці хочуць захварэць на непрыемную штуку, якая традыцыйна называецца "хваробай маракоў" і часьцей за ўсё прыводзіць да прастатыту альбо да адэномы. Каб гэта ня здарылася, людзі і займаюцца тым самым. Хаця і не прызнаюцца. Шыфруюцца.
Чаму?
Па дзьвюх прычынах. У адрозьненьне ад астатняга сьвету, дзе даўно выдаюцца салідныя працы па мастурбацыі, у нас яна дагэтуль лічыцца нечым абсалютна інтымным, з разраду наведваньня прыбіральні, ці што. Але наважымся сказаць, што і прынцэсы час ад часу сядаюць на гаршчок.
Другая прычына - чыста дзіцячая боязь апынуцца пад шквалам насьмешак аднагодкаў: маўляў, няма з кім, вось і даводзіцца шары ганяць.
Падлеткі і ананізм - у сьвядомасьці большасьці гэта два неарыўныя паняткі. Лічыцца, што юнакі займаюцца ананізмам, каб выпусьціць сэксуальную "пару", і ў пагоні за рэалізацыяй свайго лібіда ідуць на ўсё (квінтэсэнцыяй такога "ўсё" ёсьць небезьвядомая кіношка American Pie, дзе галоўны герой мастурбаваў у пірог). Аднак спэцыялісты кажуць, што такое сьцьверджаньне справядлівае толькі для хлопцаў. Гэта яны ў пераходным узросьце адольваюцца бурнымі сэксуальнымі пажадамі, фантазіямі, і ананізм зьяўляецца свайго роду "замяшчальнай тэрапіяй", якая дапамагае навучыцца ўсяму, што неабходна для будучых сэксуальных адносінаў. У дзяўчат сталеньне адбываецца больш мякка, больш плятанічна, і ананізм для іх - гульня на ўзроўні інтуіцыі.

## АНАНІСТЫЧНЫЯ ГІСТОРЫІ

Як гэта часта здараецца, самую строгую забарону на мастурбацыю ўвяла царква. Менавіта са Сьвятога Пісаньня прыйшоў тэрмін "ананізм". Паводле першакрыніцы, мужычок зь імем Анан, замест таго каб апладніць удовіцу свайго брата, праліў семя на зямлю. То бок саграшыў, бо ня даў новага жыцьця. За што і быў пакараны сьмерцю Богам.
Ад гэтай невясёлай, але павучальнай гісторыі ананізм стаў у адзін шэраг зь іншымі грахамі чалавека - здрадай, забойствам, крадзяжом і інш. "Ананізм - грэх" - сьцьверджаньне досыць спрэчнае, але пагадзіцеся, ня мы прыдумалі правілы, каб іх адмяняць. Мы толькі і маем права на тое, каб паставіць іх пад сумнеў.
А сумнявацца ёсьць у чым. Цягам стагодзьдзяў мастурбацыя лічылася занадта вялікім грахом, і зашмат загнаў чалавечых зь ёй зьвязвалі. А тая ж гісторыя сьведчыць: калі на аднаго чалавека ці зьяву звальваюць усе магчымыя правіны, лічыце, што "ахвяра" - толькі казёл адпушчэньня. Напрыклад, у Сярэднявеччы ананізм прыраўноўвалі да душэўных і фізычных немачаў слабога сапіенса. Рацыя ў гэтым безумоўна ёсьць, бо прырода чалавека такая - хутка і надоўга падсесьці на радасьці. Тым больш плоцкія. Ну так, і паесьці смачна, і любімыя дыскі паслухаць таксама грэх. Але не да такой жа ступені!
Часта даходзіла да ідыёцтва: любы малады чалавек, канчаткова затурканы бацькамі і царквой, а таму з бледным тварам, сінякамі пад вачыма і інш., прызнаваўся за ананіста. Супраць "рукаблуда" прымаліся адпаведныя захады - ці то маральнага кшталту, ці то фізычнага.
Ахвотныя да ўсеагульнага кантролю над "паствай" клерыкі і дзяржаўнікі аж да 20 стагодзьдзя ўпарта прадказвалі ананістам хуткую сьмерць ад зьнясіленьня мазгоў. Бач ты, лічылася, што спэрма выпрацоўваецца ў галаўным мозгу. Далібог, можна толькі здагадвацца, зь якой шалёнай пэрыядычнасьцю др*чылі тыя, хто высунуў такую тэорыю, бо ў іх мазгоў толькі і хапала на такую фігню. Тым ня менш, ананістаў перасьледавалі, саджалі ў дамы для псыхічна хворых, прымушалі насіць на геніталіях прылады, што нагадваюць шчамлёткі.
Тэолягі дагэтуль адносяць мастурбацыю да "прамежкавых" грахоў. Гэта значыць, што мастурбацыя прыводзіць да больш сур'ёзных правінаў.
Вядомы каталіцкі сьвяты Тамаш Аквінскі лічыў, што мастурбацыя горшая за прастытуцыю. Паводле каталіцкага сэксоляга Кінгі Вісьнеўскай-Рашкоўскай, ананізм так распаўсюджаны сярод моладзі, бо бракуе належнага сэксуальнага выхаваньня. У хрысьціянскіх моладзевых часопісах за мяжой можна часта сустрэць артыкулы, аўтары якіх пішуць пра тое, што мастурбацыя сталася для іх пасткай, выбрацца зь якой запатрабавала шмат намаганьняў і часу. "Ананізм зьнішчыў маю псыхіку і мае эмоцыі... Да сёньняшняга дня бачу свае раны", "Гэта сьмяротны грэх, які зьяўляецца прычынай парыву сувязі з Богам", "Зло хутка разьвівалася ўва мне. Я быў ім зьвязаны псыхічна і эмацыйна... Тады мастурбацыя была маёй найлепшай сяброўкай".
Трызьненьне, вядома ж, але сьмешнае!..

## БЕЛАРУСКАЯ МАСТУРБАЦЫЯ

Цяжка казаць за ўсіх маладых суайчыньнікаў, але сусьветная практыка адназначна сьцьвярджае: пры магчымасьці мастурбуе ад 60 да 90% грамадзянаў. Пра тое самае ўскосна сьведчаць розныя нефармальныя апытаньні кшталту таго, якое ладзілася калісьці на адным зь беларускіх чатаў. На пытаньне "Ці маеце Вы што-небудзь супраць ананізму?" адказы былі наступныя:
Я супраць! - 5 %
Я за... - 80 %
Я - за, аднак мне няма калі гэтым займацца - 8%
Пайду спытаю ў мамы, што гэта такое! - 7%
Ня так важна, што ў галасаваньні ўзялі ўдзел менш за паўсотні рэспандэнтаў - тэндэнцыя так ці інакш відавочная.
Падчас нашага ўласнага апытаньня старшаклясьнікаў і студэнтаў на гэтую тэму чаканьні пацьвердзіліся - большасьць разглядае мастурбацыю як нармальны фізіялягічны працэс і як "непазьбежнае ў падлеткавым узросьце".
На сакрамэнтальнае пытаньне ўсіх часоў і народаў "Ці можа мастурбацыя нанесьці шкоду фізычнаму альбо псыхічнаму здароўю?" адказы вар'іраваліся ад "Хутчэй псыхічнаму, бо разьвівае крытычнае стаўленьне да сваёй асобы" і "Ўсё гэта фігня - др*ч назаўжды!" (Андрэй, 23 гады) да "Мастурбацыя - гэта праява хворай псыхікі, вычварэньне, прыдуманае нездаровымі людзьмі" (Сьвятлана, 20 год).
Сэксолягі кажуць, што сапраўды адной зь небясьпекаў ананізму ёсьць завышаныя патрабаваньні да партнэра, якія часам могуць азмрочваць парны сэкс. І калі мастурбацыя замяняе сэкс, што ня так рэдка здараецца, то нічым добрым усё гэта скончыцца ня можа.
"Займайцеся гэтым на здароўе, але на супрацьлеглы пол не забывайцеся! - лічыць Лёша, 22 гады. - А то сустракаеш дзяўчат "навошта мне, маўляў, мужчына, калі я ўсё ўмею сама і раблю гэта лепш?"
Іншае пытаньне, што рабіў сам хлопчык Лёша, каб даказаць сустрэтым дзяўчынам адваротнае?..
Па вялікім рахунку, мастурбацыя - гэта таксама паўнацэнны сэкс. Аргазм жа сапраўдны, а не фальшывы. Адзінае што дзеліш яго з самім сабой. Таму і на фаменкаўскі жарт "Сэкс безь дзяўчыны - прыкмета дурачыны" можна сьмела забіць. Любы мужчына пры жаданьні можа ўзгадаць, калі ён ад самога сябе кончыў так, як не канчаў дагэтуль ні з адной дзяўчынай. Зноўткі прамаўчым пра дзяўчын: часам складаецца ўражаньне, што пра жаночы аргазм пацаны толькі чыталі.

## Х.. І МОРКВА

Дарэчы, а ці можа чалавек сумяшчаць больш-менш пэрыядычнае полавае жыцьцё з мастурбацыяй? Пытаньне не такое ўжо і дурное-рытарычнае. Валянтына, якая пабралася шлюбам са сваім хлопцам пасьля бурнага раману і бясконцых "я цябе кахаю", з жахам узгадвае, як аднойчы засьпела свайго 25-гадовага абраньніка ў іх ванным пакоі за мастурбацыяй над сьвежанькім нумарам "Хастлера".
"Я ледзь не звар'яцела, калі ўбачыла, чым ён займаецца, седзячы на ўнітазе. Прытым яго рэакцыя была больш чым спакойная: ён з годнасьцю кончыў, а пасьля прыйшоў на кухню, дзе я білася ў гістэрыцы, і папулярна патлумачыў, што "гэта" ў прыбіральні - ня здрада, а наадварот, спроба застацца ва ўлоньні сям'і".
Самае цікавае, што пасьля гэтага здарэньня маладая пара шчыра паразмаўляла, хто чаго хоча ад сэксуальнага жыцьця, і з таго моманту "я цябе кахаю" гучала ў сямейным ложку штоночы па некалькі разоў.
23-гадовая Юлія наадварот прыйшла да шчасьлівага сямейнага жыцьця праз васьмігадовую "сола"-мастурбацыю.
"Да 21 году ў мяне не было ніводнага мужчыны - яны не былі мне патрэбныя, бо я задавальняла сябе сама. У 22 у мяне зьявіўся сябар. У нас былі вельмі добрыя адносіны, але я баялася яму даверыцца цалкам. Папросту я выбірала. Калі глядзела на чарговага знаёмца, я ўяўляла сабе сцэну блізасьці, і мне не хацелася. Мой новы сябар быў проста цудам: я патлумачыла яму сытуацыю, і мы зь ім сталі займацца пэтынгам. Такім чынам, я таксама атрымлівала задавальненьне, і большага мне не было патрэбна. Да нейкага моманту, калі зразумела, што магу яму цалкам давяраць. Зараз мы займаемся сэксам, і я атрымліваю агромністае задавальненьне. За ўвесь гэты час я вельмі добра вывучыла сваё цела, і цяпер мне мае мінулыя заняткі мастурбацыяй дапамагаюць".

## "ТРЫ ХВІЛІНЫ РАДАСЬЦІ...

...поўны кулак гадасьці". Такі варыянт абсалютна дапушчальны і, калі хочаце, натуральны - кожны займаецца тым, што яму даспадобы. Зусім іншая гаворка, калі вядзецца пра вычварэньні на глебе ананізму.
Юля В., студэнтка 2 курсу пэдунівэрсытэту, чыя псыхіка год таму ледзь-ледзь атабарылася ў шалёным рытме студэнцкага жыцьця, першакурсьніцай перажыла сапраўдны шок.
"Я была на першым курсе. Спазьнілася на пару і ішла па пустым калідоры. Раптам убачыла ля акна мужчыну, які... Ну, карацей, мастурбаваў. Было бачна, што ён назірае за маёй рэакцыяй. Я спужалася, абыйшла яго і пабегла. Ён - за мной. Я забегла ў дэканат. Мабыць, на маім твары быў адлюстраваны ўвесь "сюжэт", бо выкладчыца адразу ўскочыла: "Што здарылася?" "Там!"- толькі і змагла сказаць я і паказала на дзьверы. Яна выбегла, а мужык быў ужо перад самымі дзьвярамі. Яго порткі былі ўсе ў спэрме. "Ах ты, гад! Каб ён у цябе адваліўся, адсох! Зараз міліцыю выклічу!" "Трасун" схамянуўся, упіхнуў сваё "дабро" ў порткі, павярнуўся і пайшоў. "А ты,- сказала мне выкладчыца, - ніколі такіх дурняў ня бойся. Мацюгай іх, як можаш, яны гэтага ня любяць. Галоўнае - не пужайся!"
Такіх выпадкаў насамрэч мора: у перапоўненым тралейбусе, на бліжэйшым возеры, куды спакойненька сабе выбіраесься з надзеяй нарэшце падрыхтавацца да іспыту. Яны, безумоўна, не азначаюць, што з аматараў памастурбаваць атрымліваюцца сэксуальныя маньякі. У такіх выпадках ананізм - сродак рэалізацыі хворых мрояў. Таму казаць, што пастаянная мастурбацыя - наўпроставы шлях да "зрухаў па фазе", - тое самае, што сьцьвярджаць: "пастаянныя заняткі сэксам - прамая дарожка да хваробы Чакацілы".

## І НІЯКАЙ МАСТУРБАЦЫІ?

Ясна, што можна і не мастурбаваць. Дакладна невядома, якія наступствы ў такім выпадку чакаюць чалавека - зусім ня выключана, ніякія. Цалкам верагодна, што меў рацыю нейкі француз, калі пісаў "дазвольце імкненьню да задавальненьняў поўнасьцю падпарадкаваць жыцьцё цела і духу, і яно заб'е вас".
Тым, хто вырашыў "завязаць" аднойчы і назаўжды, параім скарыстацца парадамі, распрацаванымі рухам "Амэрыканцы за чысьціню" ў рамках апэрацыі "Абсалютная чысьціня". Яна накіраваная на поўнае зьнішчэньне мастурбацыі ў Амэрыцы да 2005 году і праходзіць пад лёзунгам "Пераможам у вайне з мастурбацыяй!".
Сярод найбольш дзейсных мэтадаў барацьбы з ананізмам прапануецца кантраляваць вытворчасьць адмысловых прыладаў: "забараніць вібратары і іншыя прылады для мастурбацыі (што ўжо зроблена ў Тэхасе)", а спадручныя сродкі - сасіскі, каўбасы, кукурузу etc. - прадаваць у парэзаным выглядзе. Бацькам даюцца канкрэтныя парады, прытрымліваючыся якіх можна вызначыць наяўнасьць праблемы ў "чада". Сярод прышчоў, бясконцай прыгнечанасьці, імкненьня заставацца ў самоце і сьлядоў спэрмы на ніжняй бялізьне найбольш страшныя - "музыка ў стылі рок", "лібэральныя палітычныя погляды", "модніцтва" і, нарэшце, "адмаўленьне факту мастурбацыі".
Што рабіць бацькам? "Здымiце дзьверы, што вядуць у спальню (для кантролю). Правярайце, што вашае дзіця чытае. Уставайце першым і выразайце з газэтаў рэкляму ніжняй бялізны. Абрэзкі спальвайце. Разумейце мову вашых дзяцей. Любое слэнгавае слова - падазронае і можа азначаць мастурбацыю. Будзьце напагатове! Апранайце баксэрскія пальчаткі на дзяцей, калі яны кладуцца спаць - іх нельга зьняць і апрануць без чыёй-небудзь дапамогі".
Зрэшты, калі нельга, але вельмі хочацца, значыць можна?..




# СЭКС У ВЯЛІКІМ ГОРАДЗЕ

тэкст: Ігар Аляксееў

**ШТО ПАТРЭБНА САПРАЎДНАМУ МУЖЫКУ АД ГЭТАГА ЖЫЦЬЦЯ? АДКІНЕМ РОЗНЫЯ ТАМ БАБКІ, ТАЧКІ ДЫ МАБІЛЫ – КАЛІ Ў МУЖЫКА ЎСЁ Ў ПАРАДКУ Ў ПЛЯНЕ ФУНКЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ ЯГО ЯК САМЦА, ТО ЯМУ ПАТРЭБНАЯ ЖАНЧЫНА. ЗНАЙСЬЦІ ЖАНЧЫНУ Ў ПРЫНЦЫПЕ НЕ ПРАБЛЕМА – ІХ БОЛЬШ, ЧЫМ НАС. ПРАБЛЕМА ЗАЦІКАВІЦЬ ЯЕ СВАЁЙ АСОБАЙ І ПАЗНАЁМІЦЦА БЛІЖЭЙ. А ВОСЬ НАКОЛЬКІ ДАЛЁКА (ЦІ БЛІЗКА) ЗОЙДЗЕ ВАШАЕ ЗНАЁМСТВА, ЗАЛЕЖЫЦЬ ТОЛЬКІ АД РОЗУМУ І ЦЯРПЕНЬНЯ. І ТВАЙГО, І ЖАНОЧАГА.**

**А ЦІ МОЖНА БЕЗ УСЯГО ГЭТАГА?**
Можна. Але толькі на адзін раз. Шчыра кажучы, ідэя набыць каханьне (хаця б на гадзіну) за грошы грукалася ў мае мазгі не аднойчы. Ня кажучы ўжо пра трывіяльныя сэксуальныя фантазіі кшталту 1+2, 2+1, 2+2, 1+3, 3+8... Толькі вось пайсьці на экспэрымэнт усё неяк не даводзілася - то грошай лішніх няма, то асаблівага "хаценьня", то часу... А тут якраз сябар з-за мяжы прыехаў: ён даўно хацеў менскую дзеўку, прычым без усялякіх там папсовых рэстарацыяў і раскрутак, а адразу так: хлоп! - і яна як на талерачцы. Шлях адзін - да ЖЛП...

**ДЗЕ ЗНАЙСЬЦІ ЖЛП**
Здаецца, адказ просты - Жанчыны Лёгкіх Паводзінаў водзяцца на стомэтроўцы. Ну і куды пасьля зь імі? У парк Чалюскінцаў пад сасну? Мы выбралі іншы шлях і пачалі праглядаць газэты з аб'явамі... Якія - не скажу, а то яшчэ абвінавацяць у сутэнэрстве. Каму трэба, і так даведаецца. Адным словам, прыхапіўшы пачак прэзэрватываў і прыняўшы для сьмеласьці, мы паехалі на прыгоды...

**НА КРОПЦЫ**
Таксоўка прышвартавалася да тыповага пяціпавярховіка на Ракасоўскі-авэню. Дзьверы нам адчыніла бабішча, ад выгляду якой мне стала млосна. Здаровая, што кабыла, і з фрызурай новага рускага. Як высьветлілася праз сэкунду, гэта была Мадам. Ужо лепей... Адразу скажу, што інтэр'ер стандартнай савецкай двухпакаёўкі добра-ткі астудзіў мой і без таго баязьлівы намер. Але не спыняцца ж на старце (каб я ведаў, чым гэта скончыцца!). Нам былі прадэманстраваныя тры маладыя асобы: выбірайце, маўляў. Дзеўкі былі аднолькава клясычна высьветленыя, адна ўвесь час кашляла - ці то ад паленьня, ці то ад атыповай пнэўманіі. Але яна й была найбольш прывабная. Не вагаючыся доўга, мы пакінулі сабе дзьвюх, што сядзелі бліжэй да нас.
- Ну, добра! - пачала даваць інструкцыі Мадам. - У вас ёсьць гадзіна. Калі захочаце працягу, дамаўляйцеся зь дзяўчатамі, і хоць да раніцы! Грошы зараз ці пасьля сэксу? Мы вырашылі заплаціць адразу - можа, ласкавейшыя будуць...

**ПЕРАХОДЗІМ ДА ГАЛОЎНАГА**
- Ну, распранайцеся! Ці вы займаецеся гэтым у паліто? - пажартавала тая, што кашляла, заўважыўшы нашую няёмкасьць. Не паверыце, але працяглае жыцьцё ў інтэрнаце так і не навучыла мяне аддаваць рашучыя каманды кшталту "кладзіся, баба, вялікая й маленькая!" Наведаўшы душ (ЖЛП не пайшлі - відаць, ужо былі памытыя), мы разьмеркаваліся па пакоях. Прычым пакуль я выконваў гігіенічныя працэдуры, сябар выбраў сабе дзеўку, якая кашляла. Мне давялося забраць тое, што заставалася. Не спрачацца ж, калі час ужо пайшоў (ды і ну яе з гэным кашлем!). Мая амаль-красуня папрасіла пагасіць сьвятло, і мы хутка скінулі непатрэбнае. Навобмацак яна была мяккая, але чамусьці ня цёплая.
- І што ты робіш? - пытаюся, як навучылі дасьведчаныя калегі.
- Усё, акрамя аналу... - пачуў клясычны кніжны адказ.
Пасьля аказалася, што цалавацца яна таксама ня вельмі ахвотная. Ну і халера зь ім, не карціць: цыгарэтны пах з жаночага роту - ня самая прыемная на зямлі рэч.

**ПРАБЛЕМА No1**
Дасьведчаныя ў *лядотных справах сябры казалі, што на такіх кватэрах цябе чакае поўны сэрвіс - яшчэ і налюць для расслабону. А расслабон быў бы дарэчы: калі я напружаны, то інструмэнт каханьня - у адваротным стане. Такія справы: альбо я, альбо ён, і tertium non datur.
- Слухай, э-э-э... - спрабаваў узгадаць я імя мамзэлі, але марна, - ёсьць чым горла прамачыць?
- Не, тут нічога няма. Да нас звычайна са сваім прыходзяць...
Прыехалі, блін! Эх, дзеўкі-дзеўкі, са сваім прастаонам мы ходзім да тых, хто грошай ня просіць... Добра, паспрабуем так.
- У цябе праблема? Зараз усё выправім, не хвалюйся! Зразумела, стомлены чалавек пасьля працоўнага дня...
Амаль-красуня пачала мяне лашчыць: шыя, грудзі, жывот... Ніякага эфэкту! Відаць, мой стамбурок вырашыў змарнаваць гаспадарскія грошы. І тут у справу пайшоў пяшчотны дзявулін роцік! Вам ніколі не нацягвалі кандом ротам? Вышэйшы пілятаж! Мой ваяр ад такога майстэрства ажно зьдзіўлена прыўзьняўся. Ёсьць! Я ляжу амаль расслаблены, ён - у касьцюме хімабароны, дзяўчына - на мне.



**ПРАЦЭС ПАЙШОЎ**
І амаль адразу спыніўся... Сыстэма злучаных сасудаў пераключылася, і мяне прабіла на гы-гы. Ё-маё, навошта я сюды прыперся?
- Я што, нешта ня так раблю? - у голасе амаль-красуні чулася зьдзіўленьне і расчараваньне.
Не, я так не магу... Мне трэба ня толькі прымаць ласкі, але й самому мацаць, гладзіць, цалаваць жанчыну. Ды і цемру не люблю. Дэлікатэс трэба бачыць. Як зірнеш на тую прыгажосьць, што гатовая стаць тваёй нават на колькі хвілінаў, то й ніякіх віяграў ня трэба... Калі я выклаў свае ідэі наконт далейшага сумеснага існаваньня, дзявуля выдала:
- Сьвятло не хачу, бо саромеюся свайго цела. Пальцамі мне туды ня лезь - не люблю. Гладзь побач. Языком тым больш нельга - сам ведаеш, якія хваробы ходзяць... У мяне дзядзька доктар. Як паслухаеш - дрыжыкі бяруць.
Атрымай, фашыст, гранату. Сэкс з абмежаваньнямі неяк не па мне.
Думка, што я дарма сюды прыперся, трывала засела ў мазгах.
Але грошы ўжо заплачаныя.

**СПРОБА No2**
Амаль-красуня прапанавала зрабіць мне масаж. Я ахвотна падставіў сьпіну. Ну што ж, хоць так папрацуй - амаль гадзіну лайдачыла. У ход пайшлі рукі: шыя, плечы, сьпіна, клубы, сьцёгны... Пасьля трэцяй праходкі маё цела салодка нудзела, а Яго Вялікасьць Чэлес зьлітаваўся і дазволіў аддзячыць мадмуазэлі за якасны масаж. Ура! Апісаным раней шляхам кандом апынуўся на належным месцы. Мы сталі ў пазыцыю сабачак, і пад ціхія дзявочыя енкі ды стогны працэс пайшоў. І раптам... здагадайцеся з трох разоў! Правільна - вярнулася Мадам. На мяне гэта падзейнічала як стымул, і пакуль тая корпалася ў вітальні, я з хуткасьцю стаера выйшаў на фінішную прамую.

**ЦІ ВАРТА БЫЛО?**
Пакінуўшы двухпакаёўку, мы моўчкі ішлі па праспэкце. Разгаварыліся толькі праз паўгадзіны, апынуўшыся за столікам у кавярні.
- Ну, што скажаш? - спытаўся сябар.
- Анічога... Ад сваіх сяброўак я магу атрымаць болей і бясплатна.
- А ты думаў, у рай патрапіў? У гэтай справе купіць можна хіба што ілюзію. Дый то не за 25 эўра...

# OUT-LOWVE: ЗАБАРОНЕНАЕ КАХАНЬНЕ “ТУТ” І “ТАМ”

тэкст:
Язэп дзін Альт

## ① НАРМАЛЬНЫ-АНАМАЛЬНЫ

Свабодны чалавек - гэта сэксуальна свабодны чалавек. Любы таталітарны рэжым імкнецца забараніць парнаграфію, прастытуцыю, гомасэксуалізм і сэксуальную адукацыю ў школах. Першым масавым мітынгам пратэсту супраць далучэньня Ганконгу да КНР у 1997 г. стала дэманстрацыя працаўнікоў сэкс-індустрыі, прастытутак і стрыптызэраў - новыя ўлады адразу ж забаранілі гэтыя віды бізнэсу.

На падобных замашках, у прынцыпе, пабудаваная і эўрапейская цывілізацыя. У большасьці заходніх краінаў заканадаўства грунтуецца на пурытанскай маралі, закладзенай яшчэ ў віктарыянскую эпоху. Менавіта тады распачалася крыміналізацыя абортаў і сюжэтаў "ню". Адтуль жа і тэорыі пра шкоднасьць ананізму, аднаполага каханьня і г.д.

Кансэрватыўны стандарт эўрапеоідначй сэкс-культуры выглядае прыкладна так:

*"Добрым" сэксам прызнаецца пранікненьне пэніса ў вагіну на шлюбным ложку ў позе "мужчына зьверху". Пажадана - з мэтай нарадзіць дзіцёнка. Кантакт адбываецца бязь сьведкаў паміж паўналетнімі жанчынай (1 шт.) і мужчынам (1 шт.), вітаецца максымальная нарматыўнасьць у тэхніцы (як мага менш дадатковых прыладаў) і наяўнасьць рамантычных пачуцьцяў паміж партнэрамі. "Дрэнным" лічыцца сэкс па-за шлюбам, за грошы, у адзіноце альбо групай, на публіцы, анальны ды аральны, а таксама камэрцыйны, садамаза і сумнеўныя зносіны зь непаўналетнімі альбо з братамі нашымі меншымі. Нават сэкс "дзеля чыстага задавальненьня" надае дзеі флёр амаральнасьці...*

## ② ...ЯК ДЫШАЛЬ

Любы псыхічна здаровы чалавек разумее штучнасьць такіх "стандартаў". Таму ў грамадзтве, арыентаваным на лібэральныя каштоўнасьці, яны губляюць усялякі сэнс. Шмат якія віды сэксу, што нядаўна лічыліся злачынствам (гомасэксуалізм альбо анальны сэкс), адзін за адным трапляюць спачатку ў разрад "заганнага, але законнага", а потым прызнаюцца рэспэктабэльным сэксам.

Тым ня менш нават у сэксуальна прасунутых краінах заканадаўства не пасьпявае за зьменамі маралі. У некаторых штатах ЗША добраахвотны аральны сэкс караецца больш сурова, чым згвалтаваньне, і амаль паўсюль перасьледуецца добраахвотны анальны сэкс незалежна ад полу. У некаторых штатах чалавек, у якога знойдуць інтымны фатаздымак свайго перша-




**ДЗЯРЖАВА ЗАЎСЁДЫ ІМКНУЛАСЯ КАНТРАЛЯВАЦЬ СФЭРУ, ЯКАЯ НАЙМЕНШ ПАДДАЕЦЦА КАНТРОЛЮ І Ў ЯКОЙ НАЙЛЕПЕЙ ВЫЯЎЛЯЕЦЦА ЧАЛАВЕЧАЯ СВАБОДА - ЛІБІДА. МЕЎ РАЦЫЮ ДЖОРДЖ ОРУЭЛ, АЎТАР ВЯДОМАЙ АНТЫЎТОПІІ “1984”: ДЗЯРЖАВА ПАКУЛЬ НЕ ГАТОВАЯ ЦАЛКАМ ЗАБАРАНІЦЬ СЭКС, АЛЕ ЖОРСТКА РЭГЛЯМЭНТАВАЦЬ ЯГО І ПЕРАСЬЛЕДАВАЦЬ “НЯПРАВІЛЬНЫЯ” ФОРМЫ - ГЭТА КАЛІ ЛАСКА.**






га каханьня (год так у 17), сядзе за захаваньне дзіцячай порна-прадукцыі.

А зусім нядаўна сэнат Паўночнай Дакоты адмовіўся адмяніць закон 113-гадовай даўніны, які забараняе гетэрасэксуальнае сумеснае жыцьцё асобаў, што не заключылі шлюб.

Але нават у пурытанскіх ЗША суровыя абмежаваньні засталіся выключна на паперы. Хваля эратычнага тэрору 50-х (з цкаваньнем геяў і абмежаваньнем сэкс-камэрцыі) даўно схлынула. Рыцары маралі цярпяць паразу за паразай: масавая культура ў MTV-шным яе варыянце вітае сэксуальную разнастайнасьць і талерантнасьць да нязвыклых практыкаў. Мы разумеем, што чалавечы сэкс на 90% - зьява сацыяльная, і толькі на 10% - біялягічная, натуральная. І як кожная сацыяльная зьява сэкс эвалюцыянуе. Напэўна, праз некаторы час адрозьненьні ў сэксуальных звычках будуць выклікаць ня болей эмоцыяў, чым цяпер - адрозьненьні ў рэжыме харчаваньня.

## ③ СЭКС У КАТАЛАЖЦЫ

*Суд прапанаваў ім адмовіцца ад шлюбнага жыцьця. Яны не пагадзіліся і наступныя 20 год правядуць за кратамі.*
Gayle Rubin

Калі на Захадзе сэксуальная практыка больш лібэральная за сэксуальнае заканадаўства, то становішча ў т.зв. "пераходных" грамадзтвах зусім адваротнае. Колькі ні забараняялі ўлады афрыканскіх краінаў барбарскую завядзёнку клітаратаміі (ампутацыі клітараў з мэтай забясьпечыць вернасьць жонкі мужу-ўласьніку), колькі ні выдаткоўвалася на барацьбу зь ёй грошай рознымі гуманітарнымі інстытуцыямі - кату пад хвост.

Што да Беларусі, то мы маем прагрэсіўнае сэксуальнае заканадаўства, пазбаўленае віктарыянскага ханжаства. Яно дасталося нам ад "камісараў у пыльных шлемах", а дакладней, ад разьняволеных бальшавічак, якія нават традыцыйную сям'ю лічылі капіталістычным перажыткам. У савецкія часы існаваў крымінальны перасьлед мужчынскага гомасэксуалізму, і ў той жа час жаночы гомасэксуалізм трактаваўся як звычайнае душэўнае расстройства. У параўнаньні з амэрыканскімі законамі гэта проста цуд лібэралізму!

Сёньняшняе беларускае крымінальнае заканадаўства наагул не заўважае такіх зьяваў, як інцэст, добраахвотны гомасэксуалізм, нэкрафілія і жарсьць да жывёлаў. Прастытуцыя і распаўсюд парнаграфіі лічацца адміністрацыйнымі правапарушэньнямі: за "каханьне на продаж" можна атрымаць штраф хіба што ў 10 мінімалак, за парнушку - максымум "хімія", і то калі ты пастараешся двойчы папасьціся на працягу году. У гэтым сэнсе мы належым да эліты прагрэсіўнага чалавецтва.

Але адна справа пантавацца, іншая - адказваць за базар. Прасоўваньне лібэральнай сэксуальнасьці ў новыя дэмакратычныя рэгіёны, да якіх адносімся і мы, нагадвае позьнюю дэфлярацыю. Напрыклад, зусім нядаўна адна альбанская парачка вырашыла заняцца каханьнем на ўскрайку ажыўленай шашы. Зразумела, гэты акт выклікаў бурную рэакцыю прыхільнікаў "адвечнай маралі". Яны і патэлефанавалі ў паліцыю. Аднак ахоўнікі парадку не змаглі прыгадаць закону, які б забараняў займацца сэксам публічна. Парачку давялося адпусьціць. Натуральна, што ў часы дыктатара Ходжы нават і гаворкі не было пра "трах на пленэры".

Але тут Беларусь. Нават не Альбанія. Супрацоўнікі беларускіх праваахоўных органаў добра памятаюць прыкладна такі ж інцыдэнт на адным зь менскіх тэнісных кортаў. Ну, зразумела, сьвежае паветра, маечкі на ўспатнелых бюстах, доўгія ногі ў белых шкарпэтках... Карацей, у адным з прыхільнікаў вялікай ракеткі раптам успыхнула жарсьць, і ён прапанаваў пекнай спартоўцы, што сядзела побач, make love тут і зараз. Доўга пераконваць не прыйшлося, і праз трыццаць сэк парачка ўжо апантана займалася тым, што рабілі паж з графіняй на вінаградніках Маблі. Небаракаў узялі яшчэ цёпленькімі і адразу ж зьмясцілі ў ізалятар, абвінаваціўшы... у хуліганстве.

Калі ёсьць намер пакараць нестандартную праяву пачуцьцяў - патрэбны артыкул знойдзецца заўсёды.




Калі грамадзтва жыве па старой маралі, нават самыя лібэральныя законы застануцца проста паперкамі. Бабулі па-ранейшаму будуць пазбаўляць сваіх унучак клітараў, а беларускія тэнісісты - сядаць за "хуліганства". Мая знаёмая неяк сярод белага дня пайшла ў аптэку за прэзэрвативамі. "Лепей бы не хадзіла, - згадвала яна пасьля. - На мяне пяліліся як на апошнюю прастытутку". Адно радуе: у якой-небудзь начной аптэцы да гэтага ўжо паставіліся б нармальна...

# I HATE MYSELF AND I WANT TO...

## самагубства



Прывітаньне, мама!

Апошні раз прывітаньне...

Калі ты будзеш чытаць гэтыя радкі, мяне ўжо не будзе. У здаровым розуме і цьвярозай памяці пішу: ніхто ў маёй сьмерці не вінаваты. Проста ня бачу сэнсу ў гэтым жыцьці, і мне нецікава, што будзе далей. Даруй мне гэты ўчынак, але я прыносіла табе толькі сорам і сьлёзы.

У альбоме з фоткамі мае грошы, а зялёны, склеены скотчам скрутак перадай, калі ласка, Вадзіму з 12 кватэры...

Я буду заўсёды цябе любіць, на гэтым сьвеце, на тым ці яшчэ дзесьці! Даруй мне!

Твая дачка Кацярына

19.01.1999

тэкст: Алёша Сярых

Тады ўсё абыйшлося: бутэлечкі зь лекамі выпадкова пераблыталіся, і замест падземнага царства на дзяўчыну абрынулася алергія.

Так шанцуе адзінкам.

Тэма суіцыду, асабліва моладзевага, табуяваная: крыніцы закрытыя, факты замоўчваюцца. Таму ўсе імёны і прозьвішчы ў артыкуле зьмененыя, а "жыцьцёвыя" гісторыі - расказаныя студэнтамі, і пацьвердзіць іх не ўдалося. Афіцыйнае "маўчаньне" можна патлумачыць: варушыць балючую рану сваякам нельга, ды і выратаванаму лішні ўспамін - ня радасьць. Тым ня менш...

Заўсёды нехта спрабаваў, хацеў паспрабаваць, нехта рабіў гэта. Гісторыі самагубстваў як правіла не афішуюцца - яны, абрастаючы інтрыгуючымі падрабязнасьцямі, перадаюцца ад аднаго да другога а-ля "прыкінь што было!!!" Для чарговых пасярэднікаў гэта ўсяго толькі смажаныя факты, казка з кепскім канцом, што здарылася са знаёмымі знаёмых. Пагаварылі, паспачувалі і забыліся. Праблема засталася.

**ЗА 2001 ГОД ВА ЎЗРОСЬЦЕ ДА 29 ГАДОЎ СКОНЧЫЛІ ЖЫЦЬЦЁ САМАГУБСТВАМ 139,1 ЧАЛАВЕК НА 100 ТЫСЯЧ НАСЕЛЬНІЦТВА. І ГЭТА ПРЫТЫМ, ШТО СТАТЫСТЫКА СУІЦЫДАЎ ЗАЎСЁДЫ ЗАНІЖАНАЯ: УЛІЧВАЮЦЦА ТОЛЬКІ ЯЎНЫЯ ВЫПАДКІ. ТЫХ, ХТО СПРАБУЕ, У 7-8 РАЗОЎ БОЛЬШ. У БЕЛАРУСІ САМАГУБСТВА ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ТРОЙЦЫ ЛІДЭРАЎ ПА СЬМЯРОТНАСЬЦІ ПАСЬЛЯ ДАРОЖНА-ТРАНСПАРТНЫХ ЗДАРЭНЬНЯЎ І СЬМЕРЦІ АД ХВАРОБАЎ. ТОЛЬКІ Ў АДРОЗЬНЕНЬНЕ АД АПОШНІХ ЧАЛАВЕК ЗАБІВАЕ СЯБЕ САМ.**

**САЦЫЁЛЯГІ КАЖУЦЬ, ШТО СУІЦЫД - СФЭРА САЦЫЯЛЬНАЙ ПАТАЛЁГІІ, І СТАІЦЬ ЁН У АДНЫМ ШЭРАГУ З НАРКАМАНІЯЙ, ПРАСТЫТУЦЫЯЙ, ЗЛАЧЫННАСЬЦЮ І АЛЬКАГАЛІЗМАМ. І ПАКУЛЬ ПСЫХІЯТАРЫ І ПСЫХАТЭРАПЭЎТЫ СПРАБУЮЦЬ ЗМАГАЦЦА З СУІЦЫДАМ ЯК З ХВАРОБАЙ, ЭКАНАМІСТЫ ПАДЛІЧВАЮЦЬ СТРАТЫ АД САМАГУБСТВАЎ І ВЫЗНАЧАЮЦЬ, ШТО ІХ ПРАФІЛЯКТЫКА АБЫХОДЗІЦЦА ДЗЯРЖАВЕ ТАНЬНЕЙ. ФІЛЁЗАФЫ ПРОСТА КАНСТАТУЮЦЬ: "СУІЦЫД - ГЭТА ГВАЛТ НЯ ТОЛЬКІ НАД ЖЫЦЬЦЁМ, АЛЕ І НАД СЬМЕРЦЮ". НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ЎСЁ ГЭТА, ЧАСАМ УЗЬНІКАЕ ДУМКА: КАЛІ НЕШТА СКЛАЛАСЯ НЯ ТАК, МОЖНА ПАСТАВІЦЬ У ЖЫЦЬЦІ КРОПКУ. САМОМУ. БЯЗ БОЛЮ, БЕЗ ПРЫНІЖЭНЬНЯ І НАВАТ ПРЫГОЖА.**

### З ЧАГО ПАЧЫНАЕЦЦА "ВЕШАЛКА"...

У кожным узросьце свае прычыны, дакладней, фактары, што ўплываюць і падштурхоўваюць. Прычынай можа стаць і завязаны на вузельчык матузок - апошняя кропля ў акіяне непрыемнасьцяў і абломаў.

Псыхатэрапэўты кажуць, што ў маладосьці вялікую пагрозу нясе мэтафізычная інтаксыкацыя - атручваньне юнацкай сьвядомасьці спрадвечнымі пытаньнямі быцьця. Плюс максымалізм, экстрэмізм і нявыпрацаваная "звычка жыць". Атрымаецца сьвядомасьць патэнцыйнага прэтэндэнта на падарожжа ў адзін канец. На такой хвалі часьцей за ўсё і адбываюцца самагубствы.

Ланцуг "пераходны ўзрост - выпускная кляса - унівэрсытэт" наскрозь прапітаны стрэсамі: непаразуменьні з бацькамі ці выкладчыкамі, сябры-здраднікі, каханьне, вучоба.. Апошняя грае не апошнюю ролю, бо бацькі лічаць, што яна галоўная. Для дзяцей жа таго ўзросту ў большасьці выпадкаў галоўным зьяўляецца каханьне.

Ходзяць чуткі, што ў адным з элітных менскіх ліцэяў у мінулым годзе здарылася надзвычайная сытуацыя. Праходзіў конкурс-тэст, узнагародай за перамогу ў якім была паездка за мяжу. Па тых жа чутках, дырэктар ліцэю даў сваёй дачцэ адказы, і "чада" амаль у адкрытую "скатвала". Аднаклясьнікі не маглі не заўважыць гэтага. Адна зь іх, дзіця і без таго зь неўраўнаважанай псыхікай, дайшла да апошняга туру і, натуральна, не перамагла. Рэакцыя ў знак пратэсту - дзяўчына проста выкінулася з акна.

Па словах ліцэістаў, некаторыя выкладчыкі разглядаюць іх як кампутары: галоўнае - закласьці вялікі аб'ём інфармацыі ў галаву дзіцяці, а спраўляецца тая ці не - цікавіць хіба што саміх вучняў. Вялікія вучэбныя нагрузкі, напружаньне, няправільны графік вучобы выклікаюць суіцыдальную "хваробу", якую на самой справе можна назваць "горам ад вялікага розуму".

Народ кажа, што самы высокі ўзровень інтэлекту - у студэнтаў факультэту радыёфізыкі БДУ. Ня дзіва: хаця б проста ўявіць сабе пару-тройку працэсаў на ядзерным узроўні звычайнаму чалавеку не пад сілу, ня кажучы пра тое, каб вывучаць іх. Але, па чутках,





| © | |
|---|---|
| **АЎТАР** | Ежы Касінскі |
| **ПЕРАКЛАД** | Кацярына Ягела |
| **ПРАДМОВА** | Кацярына Ягела |

Да канца жыцьця Касінскі так і ня здолеў адмыцца ад абвінавачаньняў у плягіяце і эксплёатацыі перакладчыкаў, рэдактараў ды інш. літаратурных нэграў.

"Людзі, якія назіралі за ім па тэлевізары, ня ведалі, хто ж насамрэч на іх глядзіць; як жа яны маглі гэта ведаць, нікалі яго не сустракаўшы?"

"Мужчына пачаў цалаваць ягоную шыю і шчокі, потым удыхнуў пах яго валасоў і правёў па іх рукой. Чансу было цікава, чым ён заслужыў такую прыхільнасьць".





***

Чанс глядзеў тэлевізар у сваім пакоі. Прамову Прэзыдэнта на абедзе ў Інстытуце Фінансаў перадавалі па некалькіх каналах; па астатніх праграмах паказвалі толькі сямейныя гульні і прыгодніцкія фільмы для дзяцей. У пакоі Чанс пабедаў, зноў паглядзеў тэлевізар і ўжо зьбіраўся спаць, калі патэлефанавала сакратарка Рэнда.

"Толькі што званілі адміністратары тэлепраграмы "Сёньня ўвечары", - усхвалявана сказала яна, - хочуць, каб вы сёньня вечарам зьявіліся на шоў. Прасілі прабачэньня, што папярэджваюць так позна, але яны толькі цяпер даведаліся, што віцэ-прэзыдэнт ня зможа прыйсьці на шоў абмеркаваць прамову Прэзыдэнта. Містэр Рэнд такі хворы, і таму, безумоўна, таксама ня зможа прыйсьці, але ён выказаў думку, што вы, фінансіст, які зрабіў на Прэзыдэнта такое добрае ўражаньне, магчыма, захочаце пайсьці замест яго".

Чанс не ўяўляў, што прадугледжвае зьяўленьне на тэлебачаньні. Ён хацеў пабачыць сябе зьменшаным да памераў экрана, хацеў стаць карцінкай, пасяліцца ў тэлевізары.

Сакратарка чакала на провадзе.

"Я згодны", - сказаў Чанс. <...>

Раньнім вечарам да Чанса прыехаў прадусар "Сёньня ўвечары" - нізкі мужчына ў цёмным касьцюме. Прадусар патлумачыў, што прамова Прэзыдэнта павялічыла цікавасьць да эканамічнай сытуацыі ў краіне. "...І з прычыны таго, што віцэ-прэзыдэнт ня зможа сёньня зьявіцца на шоў, - працягваў ён, - мы будзем вельмі ўдзячныя, калі вы раскажаце нашым гледачам, што ж дакладна адбываецца ў нашай эканоміцы. Маючы такія блізкія стасункі з Прэзыдэнтам, вы ідэальна падыходзіце для таго, каб даць краіне тлумачэньне. На шоў вы можаце быць настолькі шчырым, наколькі пажадаеце. Вядучы зусім ня будзе перапыняць вас, пакуль вы будзеце гаварыць, але калі ён захоча ўмяшацца, то пакажа гэта, падняўшы левы ўказальны палец да левага брыва. Гэта будзе азначаць, што ён хоча альбо задаць вам новае пытаньне, альбо зрабіць асаблівы акцэнт на тым, што вы сказалі".

"Разумею", - сказаў Чанс.

"Ну, калі вы гатовыя, сэр, мы можам ісьці; нашаму візажысту трэба будзе толькі трошкі падправіць". Ён усьміхнуўся. "Наш вядучы, дарэчы, палічыць за гонар сустрэцца з вамі перад пачаткам шоў". <...>

Інтэр'ер студыі выглядаў як ва ўсіх тэлестудыях, бачаных Чансам па тэлевізары. Яго хуценька прывялі ў вялікі сумежны офіс і прапанавалі выпіць, але ён адмовіўся; замест гэтага ўзяў кубачак кавы. Зьявіўся вядучы шоў. Чанс адразу ж яго пазнаў: шмат разоў бачыў раней у "Сёньня ўвечары", хаця і ня вельмі любіў ток-шоў.

Пакуль вядучы ўсё гаварыў і гаварыў яму нешта, Чансу карцела даведацца, што бу-дзе далей і калі ж яго ўжо пакажуць па тэлевізары. Урэшце вядучы змоўк, а прадусар хутка вярнуўся зь візажыстам. Пакуль гэты мужчына наносіў яму на твар слой карычняватай пудры, Чанс сядзеў перад люстэркам. "Вас часта паказваюць па тэлевізары?" - спытаў візажыст.

"Не, - сказаў Чанс, - але я пастаянна яго гляджу".

# BEING THERE

**"Найвялікшы паклёпнік Польшчы", "мэгаляман, які паймеў Амэрыку, падмануў усіх і задушыўся", "czarny ptasior" - гэтак у апошняе дзесяцігодзьдзе пісалі пра Ежы Касінскага, культавага пісьменьніка ЗША. Двойчы прэзыдэнт ПЭН-цэнтру, ён пачынаў сваю амэрыканскую кар'еру на паркоўцы, трымаючы пры сабе капсулю з забароненым цыянідам як сродак застацца ў Штатах - хаця б за кратамі - у выпадку пагрозы дэпартацыі. Гэтыя вечныя праблемы зь візай...**

**Пасьля выхаду бэстсэлераў "Размаляваная птушка" (1965), "Крокі" (1968) і Being There (1971) Касінскі выглядаў ці не на самага эпатажнага пісьменьніка Амэрыкі. Гэты імідж захоўваецца да сёньня, нягледзячы (дзякуючы?) на тое, што ад моманту суіцыду пісьменьніка ў 1991 годзе яго рэпутацыя ў высакалобай тусоўцы апускаецца ўсё ніжэй. Нявысьветленым застаецца пытаньне аўтарства: Касінскі так і ня здолеў адмыцца ад агучаных у 1982 г. часопісам Village Voice абвінавачаньняў у плягіяце і эксплёатацыі перакладчыкаў, рэдактараў ды інш. літаратурных нэграў.**

**Being There працягвае традыцыю гіпэртрафаванай жорсткасьці і разьняволенай сэксуальнасьці ранейшых раманаў Касінскага. Пры гэтым ён адным зь першых у літаратуры адчыняе дзьверы ў новую рэчаіснасьць - сьвет тэлешоў (сьвет як тэлешоў, рэальнасьць як віртуальная прастора шоў). Галоўны герой Чанс (Chance) - душэўнахворы чалавек з парушанымі працэсамі мысьленьня. Зь дзяцінства працуючы ў садзе, Чанс назірае за сьветам праз адзінае даступнае акно - тэлевізар. І апынуўшыся пасьля сьмерці гаспадара сам-насам з гэтым тэлесьветам, Чанс не знаходзіць у ім прадказальнасьці і лягічнасьці саду, да якога прывык. Шанец - выпадковая сустрэча з прэзыдэнтам - робіць магчымым для яго "быць там", але відавочная віртуальнасьць такога, здавалася б, матэрыяльнага сьвету цывілізацыі і вытворнага ад яго сьвету TV не дазваляюць яму замацаваць сваё становішча ў "існаваньні там". Накладаньне старога коду на новыя законы грамадзтва выклікае кароткае замыканьне. Сэксуальна прывабнага - як для жанчын, так і для мужчын - Чанса імклівая раскрутка ў СМІ робіць амаль што кандыдатам у Прэзыдэнты ЗША. Але Садоўнік нечакана выходзіць з гульні, як зрабіў гэта ў 1991 годзе і сам Касінскі - славуты пісьменьнік, оскараносны сцэнарыст, фатограф, у якім ад габрэйскага хлопчыка з ваеннай Польшчы заўсёды заставалася непераадольнае жаданьне ўцякаць і падманваць чужых і сяброў праз эпатажныя паводзіны і такія ж раманы.**

BEING THERE

Візажыст і прадусар ветліва ўсьміхнуліся. "Гатова, - сказаў візажыст, кіўнуўшы і зачыніўшы кейс. - Удачы, сэр". Ён павярнуўся і сыйшоў.

Чанс чакаў у сумежным пакоі. У куце стаяў вялікі, груваскі тэлевізар. Чанс бачыў, як зьявіўся вядучы і пачаў шоў. Аўдыторыя запляскала; вядучы засьмяяўся. Вялікія вастраносыя камэры гладка каціліся вакол сцэны. Гучала музыка, а на экране мільгала ўсьмешка лідэра гурта.

Чанса ўразіла, што тэлебачаньне магло адлюстроўваць само сябе; камэры назіралі самі за сабой і, назіраючы, трансьлявалі тэлепраграму. Гэтае самаадлюстраваньне перадавалася на тэлеэкраны, зьвернутыя да сцэны, і аглядалася аўдыторыяй у студыі. З усёй разнастайнасьці рэчаў у сьвеце - дрэваў, травы, кветак, тэлефонаў, радыё, ліфтоў - толькі тэлебачаньне пастаянна трымала люстэрка перад уласным ні цьвёрдым, ні цякучым абліччам.

Раптам зьявіўся прадусар і даў Чансу знак ісьці за ім. Яны прайшлі праз дзьверы і цяжкую заслону. Чанс пачуў, як вядучы вымавіў яго імя. Потым, калі прадусар адыйшоў убок, ён апынуўся ў сьляпучым бляску агнёў. Убачыў перад сабой гледачоў; у адрозьненьне ад гледачоў, якіх бачыў па тэлевізары, ён ня мог вылучыць у натоўпе асобныя твары. Тры вялікія камэры стаялі на малой квадратнай сцэне; справа за абабітым скурай сталом сядзеў вядучы. Ён шырока ўсьміхнуўся Чансу, з годнасьцю ўстаў і прадставіў яго; гледачы пачалі гучна пляскаць. Імітуючы тое, што так часта бачыў па тэлевізары, Чанс накіраваўся да вольнага крэсла ля стала. Ён сеў, вядучы сеў таксама. Апэратары моўчкі кацілі вакол іх камэры. Вядучы нахіліўся да Чанса праз стол.

Тут, перад камэрамі і гледачамі, ледзь бачны цяпер з аддаленых кутkоў студыі, Чанс цалкам аддаўся таму, што мелася адбыцца. Усе яго думкі выпарыліся, ён удзельнічаў, але быў далёка. Камэры зьлізвалі выгляд яго цела, запісвалі кожны яго рух і бясшумна шпурлялі іх на мільёны тэлеэкранаў, раскіданых па ўсім сьвеце - у пакоях, машынах, караблях, самалётах, гасьцёўнях і спальнях. Яго ўбачыць больш людзей, чым ён зможа сустрэць за цэлае жыцьцё - людзі, якіх ён ніколі не сустрэне. Людзі, якія назіралі за ім па тэлевізары, ня ведалі, хто ж насамрэч на іх глядзіць; як жа яны маглі гэта ведаць, ніколі яго не сустракаўшы? <…>

Чанс пачуў, як вядучы сказаў: "Для нас вялікі гонар быць сёньня з вамі ў гэтай студыі, містэр Чансі Садоўнік, і гэта ж адчуваюць, упэўнены, больш за сорак мільёнаў амэрыканцаў, якія штовечар глядзяць "Сёньня ўвечары". <…> Вядучы на сэкунду змоўк; у студыі панавала цішыня. "Буду шчыры, містэр Садоўнік. Вы згодныя з поглядам Прэзыдэнта на нашую эканоміку?"

"Зь якім поглядам?" - спытаў Чанс.

Вядучы з разуменьнем усьміхнуўся. "З поглядам, які Прэзыдэнт выклаў сёньня днём у сваім асноўным звароце да Інстытуту Фінансаў Амэрыкі. Перад прамовай Прэзыдэнт раіўся з вамі, сярод іншых сваіх дарадцаў па фінансах…"

"Так?.." - спытаў Чанс.

"Я маю на ўвазе…" Вядучы вагаўся і пазіраў у свае запісы. "Ну… дазвольце прывесьці прыклад: Прэзыдэнт параўнаў эканоміку краіны з садам і даў зразумець, што пасьля пэрыяду заняпаду натуральным чынам прыйдзе час росту…"

"Я вельмі добра ведаю сад, - цьвёрда сказаў Чанс. - Я працую ў ім усё жыцьцё. Гэта добры і здаровы сад; яго дрэвы здаровыя, а таксама здаровыя кусты і кветкі, пакуль іх у адпаведную пару падразаюць і паліваюць. Сад патрабуе шмат клопату. Я, безумоўна, згодны з Прэзыдэнтам: усё ў ім памацнее ў патрэбны час. І ў ім яшчэ багата месца для новых дрэваў і новых кветак усіх гатункаў".

Частка аўдыторыі ўмяшалася апляскісмэнтамі, другая ж непрыхільна зашумела. Тады паказалі некалькі твараў гледачоў - яны, відавочна, падтрымлівалі яго словы; іншыя здаваліся раззлаванымі. На экран вярнуўся твар вядучага, і Чанс адвярнуўся ад экрана ды пачаў глядзець на яго.

"Што ж, містэр Садоўнік, - прамовіў вядучы, - сапраўды добра сказана, і, мяркую, гэта падтрымае тых з нас, хто ня любіць абмяжоўвацца скаргамі і не знаходзіць задавальненьня ў змрочных прароцтвах! Давайце па шчырасьці, містэр Садоўнік. Значыць, па-вашаму, стагнацыя ў эканоміцы, тэндэнцыя да паніжэньня на біржы, рост беспрацоўя… вы верыце, што гэта ўсё - толькі іншая фаза, іншы сэзон, так бы мовіць, у росьце саду…"

"Сад расьце… але спачатку расьліны павінны павянуць; дрэвы павінны пагубляць лісты, каб пусьціць новыя, стаць таўсьцейшымі, мацнейшымі і вышэйшымі. Некаторыя дрэвы паміраюць, але на іх месцы зьяўляюцца маладыя дрэўцы. Сады патрабуюць шмат увагі. Але калі любіш свой сад, ты ня супраць працаваць у ім і чакаць. Тады ў адпаведную пару абавязкова ўбачыш яго ў квецені".

Апошнія словы Чанса часткова згубіліся ва ўсхваляваным гуле аўдыторыі. За яго сьпінай удзельнікі гурта пастуквалі па сваіх інструмэнтах; некаторыя гучна выкрыквалі "брава". Чанс павярнуўся да тэлевізара, які стаяў збоку, і ўбачыў уласны твар з вачыма, скіраванымі некуды ўбок. Вядучы падняў руку, каб суцішыць аўдыторыю, але апляскісмэнты працягваліся, чаргуючыся з асобнымі незадаволенымі выгукамі. Ён павольна падняўся і жэстам запрасіў Чанса далучыцца да яго ў цэнтры сцэны, дзе паважна яго абняў. Апляскісмэнты дасягнулі піку. Чанс стаяў нерашуча. Калі шум суцішыўся, вядучы ўзяў Чансаву руку і сказаў: "Дзякуй, дзякуй вам, містэр Садоўнік. Якраз ваш імпэт так патрэбны гэтай краіне. Будзем спадзявацца, ён дапаможа прывесьці вясну ў нашую эканоміку. Яшчэ раз дзякуй, містэр Чансі Садоўнік - фінансіст, дарадца прэзыдэнта і сапраўдны чалавек дзяржавы!"

Ён праводзіў Чанса назад да заслоны, дзе яго мякка ўзяў за руку прадусар. "Вы былі цудоўныя, сэр, проста цудоўныя! - усклікнуў ён. - Я прадусар гэтага шоў амаль тры гады і не магу прыгадаць нічога такога! Босу вельмі спадабалася, скажу я вам. Гэта было выдатна!" Ён вёў Чанса ў глыбіню студыі. Некалькі супрацоўнікаў прыязна яму памахалі, астатнія ж адвярнуліся.

***

Да Чанса, які пасёрбваў каву ў сумежнай гасьцёўні, асьцярожна падыйшоў адзін з запрошаных. Мужчына прадставіўся і прысеў побач з Чансам, адкрыта разглядаючы яго. Ён быў старэйшы за Чанса. Выглядаў, як некаторыя з мужчын, якіх Чанс часта бачыў па тэлевізары. Даўгія шаўкавістыя сівыя валасы былі ў яго гладка зачасаныя ад ілба да патыліцы. Незвычайна даўгія вейкі зацянялі вялікія і выразныя вочы. Гаварыў ён ціха і час ад часу караценька і суха пасьміхаўся. Чанс не разумеў, што ён кажа і чаму сьмяецца. Адчуваючы, што мужчына чакае адказу, Чанс заўсёды казаў "так". А часьцей ён проста ўсьміхаўся і ківаў галавой. Раптам мужчына нахіліўся да яго і прашаптаў пытаньне, на якое хацеў пачуць дакладны адказ. Чанс жа ня быў упэўнены адносна таго, пра што той спытаўся, і таму не адказваў. Мужчына паўтарыў. Чанс захоўваў маўчаньне. Мужчына нахіліўся яшчэ бліжэй, пранізьліва паглядзеў на яго і, відаць, выхапіў у выразе твару Чанса штосьці, што прымусіла яго запытаць: "Хочаш заняцца гэтым зараз? Мы можам падняцца наверх і зрабіць гэта".

Чанс ня ведаў, чаго ад яго хоча мужчына. Што, калі ён ня зможа гэтага зрабіць? Нарэшце ён сказаў: "Я б хацеў паглядзець".

"Паглядзець? Маеш на ўвазе, паглядзець на мяне? Як я раблю гэта адзін?" - мужчына спрабаваў схаваць зьдзіўленьне.

"Так, - сказаў Чанс, - я б вельмі хацеў паглядзець". Мужчына адвёў вочы, а потым зноў павярнуўся да Чанса. "Калі ты гэтага хочаш, тады і я хачу", - сьмела заявіў ён.

Калі падалі лікёры, мужчына паглядзеў Чансу ў вочы і нецярпліва сьлізгануў рукой пад ягоную руку. Локцем нечакана моцна прыціснуў яго да сябе. "Час ісьці, - прашаптаў ён. - Хадзем наверх". <…>

Ліфт быў вузкі, з абабітымі мяккай пурпуровай тканінай сьценкамі. Стоячы побач з Чансам, мужчына раптам засунуў руку яму паміж ног. Чанс ня ведаў, што рабіць. Твар мужчыны быў прыхільны, у позірку чыталася прагнасьць. Рука працягвала абмацваць Чансавы штаны. Чанс вырашыў, што лепш будзе не рабіць нічога.

Ліфт спыніўся. Мужчына выйшаў першы і павёў Чанса пад руку. Усё было спакойна. Яны ўвайшлі ў спальню. Мужчына папрасіў Чанса сесьці. Ён адчыніў дзьверкі малога непрыкметнага бару і прапанаваў Чансу выпіць. Чанс спалохаўся, што можа страціць прытомнасьць, як тады ў машыне зь ІІ, і таму адмовіўся. Таксама адмовіўся ён паліць люльку зь дзіўным пахам, якую прапанаваў мужчына. Той наліў сабе шмат і выпіў за раз амаль усё. Потым падыйшоў да Чанса і абняў яго, прыціскаючыся сваімі сьцёгнамі да Чансавых. Чанс застаўся нерухомы. Тады мужчына пачаў цалаваць ягоную шыю і шчокі, потым удыхнуў пах яго валасоў і правёў па іх рукой. Чансу было цікава, што такога ён сказаў ці зрабіў, каб падахвоціць такую прыхільнасьць. Ён намагаўся ўзгадаць нешта падобнае па тэлевізары, але прыйшла да галавы толькі адна сцэна зь фільму, у якой мужчына цалаваў іншага мужчыну. Тады нават не было ясна, што ж насамрэч адбываецца. Ён заставаўся нерухомы.

Мужчына, відавочна, ня меў нічога супраць; яго вочы былі заплюшчаныя, вусны прыадкрыліся. Ён засунуў рукі Чансу пад пінжак, настойліва абмацваючы яго, потым адыйшоў, зірнуў на Чанса і пачаў пасьпешліва распранацца. Скінуўшы чаравікі, голы, ён лёг на ложак. Ён нешта паказваў Чансу, які стаяў ля ложка і глядзеў на распасьцёртае перад ім цела. Зьдзіўляючы Чанса, мужчына абхапіў рукой уласны чэлес і пры гэтым пачаў стагнаць, паторгвацца і трымцець.

Бясспрэчна, гэты мужчына быў хворы. Чанс часта бачыў па тэлевізары людзей з прыпадкамі. Ён нахіліўся, і мужчына нечакана схапіў яго. Страціўшы раўнавагу, Чанс ледзь не паляцеў на аголенае цела. Мужчына пацягнуўся за Чансавай нагой і, не прамовіўшы ні слова, падняў і прыціснуў падэшву яго чаравіка да свайго калянага органа.

Гледзячы, як напятая, павялічаная частка цела цьвярдзела пад краем яго чаравіка, як яна вытыркалася з-пад жывоціка мужчыны, Чанс прыгадаў здымкі мужчыны і жанчыны, якія паказваў яму рабочы ў доме Старога. Яму стала не па сабе. Але ён працягваў трымаць сваю нагу ля чэлеса мужчыны, назіраючы, як трапечацца ягонае цела, і бачачы, як яго аголеныя ногі выпрасталіся, напружана напяўшыся, чуючы, як ён ускрыкнуў, нібы ў агоніі. І зноў мужчына прыціснуў Чансаў чаравік да свайго чэлеса. З-пад чаравіка кароткімі цуркамі выштурхнулася белае рэчыва. Твар мужчыны зьбялеў: яго галава торгалася з боку ў бок. Мужчына скалануўся ў апошні раз; суцішылася дрыжаньне і трымценьне цела, цягліцы, напятыя пад Чансавым чаравікам, супакоіліся і памякчэлі, нібы іх зьнянацку адключылі ад крыніцы энэргіі. Ён заплюшчыў вочы. Чанс прыбраў нагу і ціха выйшаў.

BEING THERE



# СЛУЧАЙ з пацаном II

тэкст: Каця Іваноўская

як БЕЛАРУСЫ падымаюць НЯМЕЦКІЯ буцікі • як БЕЛАРУСЫ падымаюць НЯМЕЦКІЯ буцікі
буцікі • як БЕЛАРУСЫ падымаюць НЯМЕЦКІЯ буцікі • як БЕЛАРУСЫ падымаюць
як БЕЛАРУСЫ падымаюць НЯМЕЦКІЯ буцікі • як БЕЛАРУСЫ падымаюць НЯМЕЦКІЯ буцікі
НЯМЕЦКІЯ буцікі • як БЕЛАРУСЫ падымаюць НЯМЕЦКІЯ буцікі

**У пастаянным руху пакупнікоў дарагога бэрлінскага буціку іх адразу і не прыкмеціш, але насамрэч гэтыя два юнакі – разам. Адзін зь іх накіроўваецца зь некалькімі выбранымі рэчамі ў прымерачную, але неўзабаве расчаравана выходзіць адтуль і пакідае буцік. Не праходзіць і некалькіх хвілінаў, як другі робіць тое самае: заходзіць у тую ж прымерачную, таксама нічога не купляе і гэтаксама выпраўляецца на людную вуліцу – ягоныя рухі дакладна капіююць рухі першага, адно што зь невялікім адставаньнем. Нібы здымаецца другі кіношны дубль.**

**На вуліцы яны не паказваюць сваёй радасьці і куражу – разыходзяцца ў розныя бакі як чужыя, каб пазьней сустрэцца як сябры ў просьценькім бары і парадавацца посьпеху і ўдачы – сёньня рэчаў у буціку яны сапраўды накралі на круглую суму. А ўсе ўбачылі толькі кіно ў іх пастаноўцы. Там яны "зоркі", а паліцыянты і ахоўнікі – "чарговы раз разьведзеныя лохі".**

Пасьля бару яны зноў разыходзяцца па дамах. Адзін зь іх, умоўна назавем яго Андрэем, ідзе ў сваю "абшчагу для бежанцаў". Яму 19, ён прыехаў зь невялічкага беларускага мястэчка, дзе заўсёды адрозьніваўся ад сябрукоў большай прадпрымальнасьцю. Зарабляў на перапродажы каштоўных мэталаў і час ад часу езьдзіў на апазыцыйныя мітынгі ў Менск. Апошняе рабіў па перакананьнях, але не без прыцэлу скарыстаць для таго, каб аднойчы застацца, да прыкладу, у Германіі на правах палітычнага бежанца. Тое і зьдзейсьнілася год таму.

Насамрэч пэрсона герр Андрэя мала цікавіла беларускія спэцслужбы, і тыя нават не спрабавалі палітычна перасьледаваць пацана, таму неабходных у такім выпадку доказаў свайго дэсыдэнцтва адпаведным нямецкім органам хлопец прадставіць ня змог. Першапачатковы плян застацца нібыта ляснуў, але гэта яшчэ нічога ня значыць: у бюракратычнай Германіі падобныя справы разглядаюцца вельмі доўга, ледзь не гадамі. А на час чаканьня (незалежна ад шанцаў на атрыманьне станоўчага адказу) грамадзянам з Андрэевымі амбіцыямі надаецца афіцыйны статус - "асоба, якая просіць палітычнага прытулку". Але фармулёўка "просіць" цягне за сабой дзяржаўную апеку ў выглядзе жыльлёвай плошчы ў адпаведным інтэрнаце, аплачаных страховак і 200 эўра на месяц на харчаваньне і кішэнныя расходы. Для Германіі няшмат, але ня так і кепска. Зрэшты, Андрэй лічыць па-іншаму: "Як можа малады чалавек жыць на тыя грошы?"

Ісьці працаваць? Тая ж бясконцая цяганіна з дакумэнтамі, да таго ж трэба ведаць мову. Калі ж працаваць "па-чорнаму", то атрымаеш капейкі, а крый Божа эміграцыйныя органы зловяць - "Вяртаньне на Радзіму" ў стылі Агінскага забясьпечана...

Атрымліваецца, што крадзеж - ня самая горшая пэрспэктыва для паўлегальнага эмігранта. Да таго ж яшчэ ў Беларусі нехта зь сяброў дзяліўся, што "тырыць у немцаў вельмі проста - яны дурныя!" Па шчырасьці, гэта і быў першапачатковы, сапраўдны прыцэл для паездкі. Ня дзіва, што беларус адразу знайшоў сябрукоў, якія і інсцэнізавалі "Карты, грошы, два ствалы" на абсягах буцікаў Бэрліну.

"Так, пасадзіць могуць, - распавядае Андрэй, - але толькі калі возьмуць з доказамі на руках, а калі пасьпееў "скінуць" рэчы, то ўсё - паразьбіраюцца і адпусьцяць. Тут і з паліцыянтамі можна лаяцца, ня тое што ў нас!" Для пацаноў, якія не аднойчы зьведвалі "ласкі" беларускіх мянтоў, гэта асаблівы кайф - стаў сабе, разыгрываеш перад удзячнай публікай глуханямых, "даўнаў", "прыпадачных". Ходзіць байка пра беларускага хлопца, які на стандартнае пытаньне паліцыянта "вы прыехалі па візе?" адказаў: "А вы ў 41-ым да нас па візе прыяжджалі?" Проста і з густам.

## Сапраўднае кіно

Андрэй з напарнікам толькі напачатку ня кідаюцца ў вочы прадаўцам буцікаў. Насамрэч пацаны замалыя для атавараваньня ў якім-кольвек Hugo Boss: пакупкі такога клясу і кошту ў Эўропе могуць дазволіць сабе пераважна людзі сталыя і "ўладкаваныя", кажучы проста - бюргеры перадпэнсійнага веку. Прадаўцы хлопцаў прыкмецілі, але пакупнік ёсьць пакупнік. Хлопцы ж заўважаюць куды больш: рухі і позіркі прадаўцоў, пакупнікоў, месцазнаходжаньне відэакамэраў.

Сама працэдура крадзяжу выглядае наступным чынам: Андрэй выбірае рэчы (як правіла, гэта канкрэтны заказ "кліентаў") і накіроўваецца зь імі ў прымерачную. Там пруткамі і іншымі адмысловымі прыладамі здымае ахоўныя магніты (дзякуючы ім неаплачаная рэч "зьвініць" на выхадзе), пасьля прымацоўвае іх на "непатрэбную" рэч, з апошняй выходзіць з кабінкі, вешае на месца і сыходзіць. Рэчы без магнітаў застаюцца ў прымерачнай, адкуль іх выносіць другі.

Схема ледзьве не ідэальная - простаму воку цяжка заўважыць усе махінацыі. Зь іншага боку, як пападзесься з "прыладамі для выдаленьня магнітаў", пішы прапала - наяўныя доказы дазваляюць шыць канкрэтную справу.

Вядома ж, бяз казусаў не абыходзіцца. Аднойчы Андрэй, тады яшчэ недасьведчаны ва ўсіх тонкасьцях, зблытаў прымерачныя і пасьпяхова вынес з крамы рэчы аднаго з пакупнікоў, якому трэба было якраз у той момант выйсьці з кабінкі ці то каб паглядзецца ў вялікае люстра, ці то каб падабраць нешта іншае. У рэчах, якія вынес Андрэй, былі ўсе дакумэнты, крэдыткі, мабіла немца. Пэўна, адміністрацыя буціку адным вялікім скандалам не абыйшлася!

Зараз Андрэй ведае сабе цану: нічога ня блытае, можа лёгка абхітрыць відэакамэры, прадаўцоў, магніты. Але цяпер ён упэўніўся, што немцы не такія і тупыя. "Разумееш, усе рэчы ў буціках застрахаваныя, значыць, краме ў прынцыпе ўсё роўна, на чым рабіць выручку: на продажы ці крадзяжы. Але страхавым кампаніям ня ўсё адно: яны наймаюць спэцыяльных дэтэктываў. Тыя, у адрозьненьне ад прадаўцоў, апранутыя звычайна і нібыта зьліваюцца з масай, але насамрэч пільна сочаць за пакупнікамі, адпаведна, і за намі".

## Засады

Таму, хто пасьпеў пусьціць сьлінкі хцівасьці, раю расслабіцца і паберагчы сьлінныя залозы да лепшых часоў. "Асоба, што просіць палітычнага прытулку" фактычна ня мае ніякіх правоў у параўнаньні з тымі ж палітбежанцамі "ў законе".
200 эўра, што пералічваюцца Андрэю, трапляюць на спэцыяльную картку ці выдаюцца чэкамі, па якіх нельга атрымаць рэальныя грошы. То бок на руках у цябе ня будзе ні рубліка (выбачайце за калямбур). Разьлічвацца такімі чэкамі і карткамі можна толькі ў некаторых крамах, якія часьцей за ўсё знаходзяцца на ўскрайку Бэрліну, а гэта ўжо само па сабе абмежаваньне свабоды і ўскосная дыскрымінацыя "не сваіх" грамадзянаў.
Грошы на картцы трэба патраціць цягам таго месяца, на які іх далі, інакш пакінутая сума згарае. Такім чынам немагчыма сэканоміць на штосьці больш-менш дарагое. З чэкамі яшчэ складаней. Кожны мае вартасьць 25 эўра, але рэшту наяўнымі грашыма можна атрымаць на суму, ня большую за 10% ад вартасьці чэка, гэта значыць 2,50 эўра. То бок закупкі нават у прадуктовай краме становяцца эпапеяй з падлікам на калькулятары: што ўзяць, а што - не (купіць жа адну дробязь немагчыма!). Хочаш набыць сшытак - будзь ласкавы, едзь "на выселкі" і закупляйся ў канцтаварах на ўвесь чэк!
Абвінавачваць немцаў у недэмакратычнасьці - няўдзячны занятак (сябе ў люстры бачылі?). Першапачаткова карткавая сыстэма мела на мэце скарачэньне злачыннасьці і, у прыватнасьці, ужываньня і распаўсюду сярод эмігрантаў наркаты. Здавалася б, някепская ідэя, але даўно стала зразумела, што такая сыстэма толькі стымулюе крымінальныя захады. Ясна, што нарката - праблема ў лягерах і інтэрнатах для перасяленцаў, але ж ёсьць нармальнае чалавечае жаданьне мець колькі грошай на філіжанку кавы ці куфаль піва ў бары, дзе карткі і чэкі не бяруць. У выніку бежанцы ўсіх нацыяў крадуць, працуюць "па-чорнаму" ці прадаюць карткі на чорным рынку за палову іх сапраўднага кошту.

## Беларусь супраць Europe

На фоне праблемаў у Беларусі гісторыя і наступствы выглядаюць гэткім "люкс-лямантам". Эўропа сапраўды стаіць на высокім узроўні дэмакратыі і эканамічнага разьвіцьця, праз які беларусы - "вечныя жабракі" - ідэалізуюць Захад да ступені мітычнай Краіны Оз. Але па сутнасьці Андрэй - асобны прыклад таго замкнёнага чортава кола праблемаў у "іх" дзяржаўным і сацыяльным уладкаваньні, няхай на свой капыл і на іншым якасным узроўні.
Кар'ера Андрэя прымушае яго задумацца, што фактычнае спрыяньне крадзяжам у буціках і рэдкія спробы пакараньня сапраўды некаму выгадныя. Камусьці выгадна атрымліваць страхоўку за скрадзенае, камусьці часам выгадна злавіць пацаноў і палепшыць паліцэйскую статыстыку, камусьці - прадаць ці купіць скрадзенае, а камусьці - пастаянна наракаць на крыміналізаванасьць усходнеэўрапейцаў-афрыканцаў-лацінасаў, каб падтрымаць адпаведны стэрэатып "вораг і злодзей недзе побач".
Пры гэтым просты беларускі пацан з Бэрліну небеспадстаўна кажа, што "красьці ў Германіі нашмат лепей, чым жыць у Беларусі. Мая безвыходнасьць злодзея, якога калі-небудзь усё-ткі зловяць, не такая фатальна шэрая, як жыцьцё таты, мамы, малодшай сястры там".
Андрэй з гонарам расказвае пра тое, што дапамагае бацькам. Як і яго сябрукі, ён дасылае дадому шмоткі, бытавую тэхніку, грошы са словамі "ну, пакуль магу і пакуль бясплатна даецца..." Яго разьведзеныя бацькі ведаюць, адкуль бяруцца падарункі, але тым ня менш прымаюць іх. Бацька, ня вельмі пасьпяховы прадпрымальнік, кажа: "Будзеш дурнем, калі сам вернесься". Мама-настаўніца часам плача па тэлефоне, просіць вярнуцца, бо знайшла для яго працу. Але пасылку з мабілай і адзеньнем "для бацькі" мужу не перадала. Прынцыпова. Мусіць, таксама прынцыпова ўсё гэта перапрадала.
А яшчэ ён расказвае пра землякоў-злодзеяў, пра кліентаў (якія заказваюць усё: ад кавы да касьцюмаў Hugo Boss), пра чачэнцаў, якія "лахаюць" іншых, каб кралі, бо рабіць гэта самім ім забараняе Каран, пра знаёмых, што сьпіваюцца і скалваюцца.
"Баюся сам сябе - болей не магу ня красьці. І трапіць у паліцыю страшна. Часам думаеш, як крута было б аднойчы наваліць цэлы кошык прадуктаў і за ўсё гэта заплаціць у супэрмаркеце. Якія мары? Паезьдзіць па сьвеце, і лепей за ўсё так, каб гэтую прыгажосьць пабачыў нехта яшчэ... Сястра, напрыклад".
Па праўдзе кажучы, я ня ведаю, што Андрэй прыдумаў, а што - не. Прынамсі, нават калі ён усё і прыдумаў, то так рэалістычна, што паверыў сам. Падчас нашай апошняй сустрэчы ў Бэрліне ён сказаў, што зьбіраецца перабрацца ў якуюнебудзь іншую эўрапейскую краіну, дзе, можа, будзе лягчэй "аформіцца" бежанцам і дзе хутчэй за ўсё ён будзе працягваць красьці.





# КіНО

рэмэйкі, сыквэлы і інш.

*з другіх рук*

тэкст: D&A

***“Плягіятары могуць спаць спакойна: муза - жанчына, а яна нізавошта ня скажа, хто быў першым,” - зьедліва канстатаваў Станіслаў Ежы Лец. Кінэматограф па незалежных ад яго прычынах пад раздачу ўласных музаў ня трапіў. Таму ў гэтай сфэры пытаньне “хто першы?” вырашаецца значна прасьцей - шляхам яго прынцыповай непастаноўкі. У кінасфэры на татальным “перадзёры” робяць ня толькі імёны, але - ня хлебам жа адзіным! - і грошы, прычым немалыя.***

**Фільмаў шмат, у аматарах здымаць іх недахопу таксама не адчуваецца. Як вынік - пэрманэнтны дэфіцыт ідэяў і сродкаў іх увасабленьня. Асноўны прынцып індустрыі - не арыгінальнасьцю, але знаходлівасьцю - ужо не выклікае зьдзіўленьня. Галоўнае - адзін раз "прасекчы фішку", якую глядач без празьмерных высілкаў праглыне разам з чыпсамі ці папкорнам пад шумок Dolby Surround, і паставіць яе на канвэер. Тым больш што кароткая памяць - загана эпохі масавых камунікацыяў, а паўтараць, як вядома, карысна ў адукацыйных мэтах. Прычым займаюцца падобнага кшталту справамі так даўно, што пры дэталёвым разглядзе без граху могуць застацца хіба толькі айцы-заснавальнікі кіно браты Люм'еры.**
**На кінамове такое "запазычаньне" завецца не абразьліва-крымінальным "плягіятам", а па-заморску стылёва - "рэмэйк" (remake).**

## ШТО ГЭТА?

Працэс разрозьненьня гэтага ангельскага слова ненавязьліва выкрывае схаваны сэнс - пера (re-) і рабіць (make). Прычым ня проста нахабна заняцца ўзнаўленьнем, а падыйсьці да справы з прэтэнзіяй на крэатыўнасьць.

З пункту гледжаньня тэрміналёгіі рэмэйкам называюць фільм, які вельмі - ад прынцыпу пабудовы кадра да назвы - нагадвае сваіх пасьпяховых "кінапапярэднікаў". Толькі акторы розныя, дый тое не заўсёды. Іншымі словамі, рэмэйк - увасабленьне ў жыцьцё былых футурыстычных прагнозаў накшталт "Як бы Жан-Люк Гадар зрабіў гэты фільм гадоў так праз 50?" з папраўкай на аўдыторыю і/ці час.

Стваральнікі рэмэйкаў апынаюцца перад дылемай: або з постмадэрновай прэтэнзіяй на арыгінальнасьць паказаць цуды інтэрпрэтацыі, або набрацца нахабства і залічыць гледача ў мазахісты з прагрэсуючай амнэзіяй, распавёўшы яшчэ раз старую казку.

Сутнасьць прадукаваньня рэмэйкаў можна параўнаць з паходам у second hand. З аднаго боку, прээнтаваны прадукт - зацёрты і патыхае нафталінам. Зь іншага - нават у вялікай колькасьці хламу сустракаюцца сапраўды вартыя ўвагі рэчы. І знаходзіць, між іншым, толькі той, хто шукае.

Але паўстае навязьлівае

## НАВОШТА?

Вось тут і пачынаюцца варыяцыі на тэму.

**Хочацца грошай** - гэтак званы камэрцыйны рэмэйк. Шлях яго зьяўленьня прыкладна такі. Бярэцца адзін камэрцыйна пасьпяховы сюжэт, і пачынаецца павелічэньне папуляцыі шляхам негвалтоўнага размнажэньня. На мове кіно гэта называецца **сыквэл** (sequel - лягічны працяг з тымі ж самымі фэйсамі ў галоўных ролях. Крыніца зьяўленьня шчымлівых "Крыкаў", "Чужых - адзін, два, тры, чатыры", шматлікія вяртаньні "Назад у будучыню" і мэтамарфозы "Тэрмінатара" ці "Крэпкага арэшка"). Або **прыквэл** (prequel - што было "да таго як"), калі па нейкіх недарэчных прычынах галоўныя героі былі неабачліва загубленыя.

У сытуацыі, калі ні першае, ні другое ня мае посьпеху, рэжысэру нічога не застаецца, як пачакаць пару дзясяткаў гадоў і зьняць **рэмэйк**. Або скарыстацца паслугамі славутых калегаў "па цэху". З сур'ёзным аўтарскім кіно адбываюцца пэўныя мэтамарфозы - якая-небудзь філязофская фантастычная драма накшталт "Салярыса" Таркоўскага пад пільным кіраўніцтвам містэра Содэрбэрга ператвараецца ў мэлядраму, зьнятую ў лепшых галівудзкіх традыцыях, а мілая францыская "Цацка" зь П'ерам Рышарам - у зусім ня сьмешны амэрыканскі камэдыйны баявік. На навуковым слэнгу гэта называецца "зьмена культурных кодаў і іх адаптацыя да новай рэчаіснасьці".

Выснова трывіяльная - кінапрагрэсам кіруе сквапнасьць.

Прыклады камэрцыйных рэмэйкаў? Колькі заўгодна:

- **"На апошнім дыханьні" (Жан-Люк Гадар, 1959) vs. "На апошнім дыханьні" (Джым Макбрайд,1983)**
- **"Point Blank" зь Лі Марвінам (Джон Бурман,1967) vs. "Payback" з Мэлам Гібсанам (Дэвід Хэлджэленд, 1999)**
- **"Анёлы Чарлі" (амэрыканскі тэлесэрыял 70-х) vs. "Анёлы Чарлі" з Дру Бэрымор, Кэмэрон Дыяс і Люсі Ліў (МакГі, 2000)**
- **"Расплюшчы вочы" (А.Амэнабар, 1999) vs. "Ванільнае неба" (К.Кроў, 2001)**

Тым ня менш, ёсьць яшчэ такія, каму - пункт В - **ня хочацца грошай**.

Затое ёсьць нясьцерпнае жаданьне аўтара згуляць у культурнага чалавека. З сэрыі "Мой маленькі Хічкок" - так бы мовіць, інтэлектуальны рэмэйк.

У гэтым выпадку на экранах зьяўляецца кіно "а-ля" - сучасныя героі забаўляюцца гульнямі мінулых гадоў у адпаведным антуражы. Стылёва і настальгічна. Альбо, як варыянт, сьцёбна:

- **"Псыха" (А.Хічкок, 1960) vs. "Псыха" (Г. ван Сэнт, 1998)**
- **"Вампіры" (Л.Фэйяд, 1916) vs. "Ірма Вэп" (А.Асаяс, 1996)**

Пункт С. **Прывід патрыятызму**.

Рэмэйкі ў стылі "партыя сказала трэба, камсамол адказа "ёсьць!", або ідэалягічныя. Робяцца звычайна з выхавальна-патрыятычнымі мэтамі - узьняць баявы дух грамадзянаў асобна ўзятай дзяржавы. У нашай краіне такое кінамастацтва называецца "дзяржзамова". Рэжысэр выконвае высакародную мастацкую місію за казённы кошт з пэрспэктывай атрыманьня "за ўнёсак". У "іх" гэта ніяк не завецца, але таксама прысутнічае. Глядзіце:

- **"Чырвоныя д'ябляняты" (І.Перастыяні, 1923) vs. "Няўлоўныя мсьціўцы" (Э.Кеасаян, 1966)**
- **"Зорка" (А.Іваноў, 1949) vs. "Зорка" (М.Лебедзеў, 2002)**

Карацей, дарэмна Воланд казаў, што "ня першай" сьвежасьці не бывае. Бывае! Рэмэйк жыве і квітнее. VIVA!

# САЛЯРЫС

ФАНТАСТЫКА/ДРАМА, СССР, 1972
**РЭЖЫСЭР**: А.ТАРКОЎСКІ.
**СЦЭНАР**: Ф.ГАРЭНШТЭЙН, А.ТАРКОЎСКІ.
**У РОЛЯХ**: Д.БАНІЁНІС, Н.БАНДАРЧУК, М.ГРЫНЬКО.
ПА МАТЫВАХ АДНАЙМЕННАГА ТВОРУ СТАНІСЛАВА ЛЕМА.

**Дзеяньне** адбываецца ў аб'яднаным сьвеце, дзе ўсе размаўляюць на адной мове, носяць прыгожае адзеньне і ствараюць уражаньне забясьпечаных людзей.

**Інтэр'ер станцыі:** рэпрадукцыі Брэйгеля і Рублёва, кнігі Сэрвантэса, расьліны ў гаршчках.



**Галоўны герой:** Крыс Кельвін (Баніёніс) - псыхааналітык, маўклівы мэлянхолік 35 год.



Яго былая **жонка** Хары (тут - Наташа Бандарчук), якая скончыла жыцьцё самагубствам: Крыс кахаў іншую.



**Сымпозіюм:** міжнародная канфэрэнцыя па салярыстыцы ў залі з партрэтамі Цыялкоўскага, Гагарына і Армстранга.



Крыс у цішотцы (T-shirt) і майтках, Хары ў камбінашцы (**42-я хвіліна фільму**).



**Бортінжынэр** Снаўт (Ярвэт): пабіты жыцьцём нямецкі інтэлектуал-алькаголік.



# САЛЯРЫС

ФАНТАСТЫКА/ДРАМА, ЗША, 2002
**РЭЖЫСЭР:** С.СОДЭРБЭРГ.
**СЦЭНАР:** С.СОДЭРБЭРГ.
**У РОЛЯХ:** ДЖ.КЛУНІ, Н.МАКЭЛХОЎН, ДЖ.ДЭВІС.
ПА МАТЫВАХ АДНАЙМЕННАГА ФІЛЬМУ ТАРКОЎСКАГА.

**Дзеяньне** адбываецца ў Амэрыцы, цалкам раскладзенай капіталізмам.



**Інтэр'ер станцыі:** прадметаў зь Зямлі, такое ўражаньне, проста няма.



**Галоўны герой:** Крыс Кельвін (Клуні) - псыхааналітык, маўклівы мэлянхолік 35 год.



Яго былая **жонка** Рэя (тут - Наташа МакЭлхаўн), якая скончыла жыцьцё самагубствам: Крыс даведаўся, што яна зрабіла аборт, і сышоў.



**Сымпозіюм:** калектыўны сэанс у псыхааналітыка з удзелам прадстаўнікоў усіх расаў і веравызнаньняў.



Крыс і Рэя цалкам голыя (**10-я хвіліна фільму**).



**Бортінжынэр** Сноў (Джэрэмі Дэвіс): малады нэўрастэнік з абмежаваным слоўнікавым запасам і гранжавай бародкай.

